*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 снежня 1989 г. № 49 (3511) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


# ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ ПАЧАЛАСЯ

## Сесія Вярхоўнага Савета БССР

4—5 снежня ў Мінску праходзіла трынаццатая сесія Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання. На разгляд Вярхоўнага Савета былі ўнесены наступныя пытанні:

**1. Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР і дэпутатаў мясцовых Саветаў.**

**2. Аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1990 год.**

**3. Аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1990 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1988 год.**

**4. Аб неадкладных мерах па ўмацаванню дысцыпліны і грамадскага парадку ў рэспубліцы.**

**5. Адказ Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР М. В. Кавалёва на запыт групы дэпутатаў.**

**6. Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

**Па першаму пытанню выступіў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР дэпутат У. А. Мікуліч.**

**Дэпутаты зацвердзілі пастановы Вярхоўнага Савета БССР *«Аб назначэнні выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў»* і «Аб утварэнні Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў БССР».**

**З дакладам па другому пытанню выступіў старшыня Дзяржплана рэспублікі дэпутат В. Ф. Кебіч, па трэцяму — міністр фінансаў БССР дэпутат Б. І. Шаціла.**

**Садаклад Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР зрабіў намеснік старшыні Планава-бюджэтнай камісіі дэпутат Ф. В. Баравік.**

Старшынствуючы на сесіі І. Я. Навуменка зачытаў пастанову Вярхоўнага Савета па дэпутацкаму запыту Р. І. Янкоўскага, Н. С. Гілевіча і І. Г. Чыгрынава. У пастанове, у прыватнасці, адзначаецца, што ў IV квартале 1990 года пачнецца паэтапнае павышэнне заработнай платы работнікаў культуры. Акрамя гэтага, за кошт рэспубліканскага бюджэту ўжо са студзеня наступнага года будуць устаноўлены надбаўкі да зарплаты работнікам культуры ў сельскай мясцовасці.

**Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1990 год, Закон аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1990 год і пастанову аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1988 год. Прынята таксама пастанова аб пераходзе Беларускай ССР з 1990 года на новыя ўмовы гаспадарання на аснове самакіравання і самафінансавання.**

**З дакладам «Аб неадкладных мерах па ўмацаванню дысцыпліны і грамадскага парадку ў рэспубліцы» выступіў Старшыня Камісіі заканадаўчых меркаванняў Вярхоўнага Савета БССР дэпутат І. Ф. Якушаў.**

**Большасцю галасоў дэпутаты вырашылі вярнуць Закон аб неадкладных мерах па ўмацаванню дысцыпліны і грамадскага парадку ў рэспубліцы на дапрацоўку.**

**З дакладам аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР выступіла сакратар Прэзідыума дэпутат Л. М. Сыраегіна.**

**Вярхоўны Савет прыняў законы і пастановы аб зацвярджэнні Указаў.**

**(Па матэрыялах БЕЛТА).**

---

XIII сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла пастанову аб назначэнні выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і *народных дэпутатаў мясцовых Саветаў. Выбары назначаны на* нядзелю 4 сакавіка 1990 года. Устаноўлена норма выбаршчыкаў на адну выбарчую акругу на выбарах народных дэпутатаў БССР з разліку 23,1 тыс. выбаршчыкаў.

Утворана Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР на чале са старшынёй Камітэта народнага кантролю рэспублікі М. І. Лагіром. На сваім першым пасяджэнні камісія ўтварыла выбарчыя акругі, зацвердзіла каляндарны план асноўных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, а таксама план сваёй работы.

Такім чынам, выбарчая кампанія фактычна пачалася. «ЛіМ», як і іншыя сродкі масавай інфармацыі, таксама падключаецца да гэтай важнай грамадска-палітычнай справы і адкрывае на сваіх старонках новую рубрыку — **«Выбарчы клуб «ЛіМа»**.

Мы звяртаемся да нашых чытачоў з наступнымі пытаннямі:

**1. Як вы асабіста разумееце лозунг «Уся ўлада Саветам!»! Якія, на ваш погляд, практычныя шляхі яго рэалізацыі!**

**2. Як вы ўяўляеце і збіраецеся ажыццяўляць сваё грамадзянскае права выбіраць і быць выбраным у Саветы народных дэпутатаў!**

**3. Ваш ідэал народнага дэпутата! Каго канкрэтна вы хацелі б бачыць у дэпутацкім корпусе рэспублікі!**

Чакаем вашых водгукаў.

# БЫЦЬ ЗАКОНУ АБ МОВЕ!

**Сёння ў рэспубліканскім друку апублікаваны праект Закона Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб мовах у Беларускай ССР». Апублікавана і пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб праекце, якая вызначае парадак яго народнага абмеркавання.**

**У растлумачэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі да законапраекта адзначаецца, што ў аснову працы над ім былі пакладзены ідэі ленінскай канцэпцыі функцыяніравання моў у шматнацыянальнай дзяржаве, рашэнні XXVII з'езда КПСС і XIX Усесаюзнай партканферэнцыі, платформа КПСС «Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах» і пастанова І З'езда народных дэпутатаў Саюза ССР «Аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі СССР». Пры распрацоўцы праекта былі ўважліва вывучаны заканадаўчыя акты аб мовах, падрыхтаваныя або прынятая ў іншых саюзных рэспубліках, а таксама шматлікія прапановы, што паступілі на адрас Вярхоўнага Савета БССР, у партыйныя органы, грамадскія арганізацыі, у рэдакцыі перыядычных выданняў і г. д.**

**Праект закона скіраваны на ахову і развіццё мовы як неацэннага скарбу народа і чалавецтва. Ён зыходзіць з маральнага абавязку людзей любіць і шанаваць родную мову, паважліва ставіцца да моў іншых народаў. Пры гэтым падкрэсліваецца, што наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай не закранае канстытуцыйных правоў грамадзян іншых нацыянальнасцей карыстацца рускай і іншымі мовамі.**

**Наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай забяспечыць яе функцыяніраванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, створыць спрыяльныя ўмовы і стымулы для павышэння яе прэстыжу, сацыяльнай значнасці, актывізацыі як сродку зносін і неад'емнага элемента духоўнай культуры народа, для яе ўсебаковага развіцця і навуковага вывучэння. Беларуская мова такім чынам стане афіцыйнай мовай — мовай справаводства і дакументацыі дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый, а таксама мовай іх узаемаадносін. Значыць, дзяржава бярэ на сябе абавязкі гаранта паўнацэннага і паўнакроўнага функцыяніравання мовы карэннага насельніцтва рэспублікі і тым самым забяспечвае існаванне і будучыню беларускага народа як нацыі, захаванне гістарычных дасягненняў яго самабытнай культуры і традыцый, якія з'яўляюцца незаменнай і непаўторнай часткай духоўных набыткаў чалавецтва.**

Праект закона аб мовах у Беларускай ССР «ЛіМ» надрукуе ў наступным нумары.

# ПЕРАБУДОВА І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

**«Круглы стол» «ЛіМа»**

**У студзені сёлетняга года прадстаўнікі 35-ці краін — удзельніц Венскай нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе прынялі выніковы дакумент, дзе пацвярджаецца курс на захаванне прынцыпаў Хельсінскага працэсу на далейшае ўдасканаленне міжнароднага заканадаўства па правах чалавека. Паставіў свой подпіс пад венскім дакументам і Савецкі Саюз, прадэманстраваўшы тым самым сваю рашучасць сцвярджаць у сябе універсальныя правы чалавека.**

**Перабудова і правы чалавека — гэтай тэме быў прысвечаны «круглы стол» газеты «Літаратура і мастацтва», які адбыўся 4 снежня г. г. У яго рабоце прынялі ўдзел народныя дэпутаты СССР, пісьменнікі, навукоўцы, адказныя работнікі міністэрстваў юстыцыі, замежных і ўнутраных спраў, Пракуратуры і Вярхоўнага суда БССР, прадстаўнікі Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».**

**У вострай, больш як трохгадзіннай дыскусіі, вялася гаворка аб становішчы з правамі чалавека ў краіне і ў рэспубліцы, аб тым, як перавесці ў практычнае рэчышча, забяспечыць арганізацыйна, адміністрацыйна і юрыдычна дэклараваныя Выніковым дакументам венскай сустрэчы грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, культурныя і іншыя правы і свабоды чалавека ў Беларусі. Асаблівая ўвага ўдзельнікаў «круглага стала» была скіравана на такія прыярытэты, як забеспячэнне свабоды думкі, палітычных перакананняў, сумлення, правоў на нацыянальную культуру і мову, на свабоду друку і інфармацыі, на мітынгі, сходы і дэманстрацыі, на аб'яднанне грамадзян у грамадскія і іншыя арганізацыі.**



Удзельнікі «круглага стала» народны дэпутат СССР С. Шушкевіч і пісьменніца В. Іпатава.

**Падрабязная справаздача аб *пасяджэнні «круглага стала»* будзе змешчана ў адным з наступных нумароў «ЛіМа».**

# ЗВАРОТ
## да работнікаў культуры Беларусі

Падзеі апошняга часу прымушаюць задумацца ўсіх нас аб стане духоўнасці ў нашым грамадстве. А, як вядома, узровень духоўнасці — гэта вытворнае ад нашай культуры. Якая культура, такая і духоўнасць.

Што ж рабіць, каб як мага хутчэй узняць узровень культуры? Каб уздзеянне культуры на чалавека ажыццяўлялася ўжо на самым раннім этапе яго жыцця?

Сёння як паветра неабходна грамадская ініцыятыва.

У рэспубліцы працуюць звыш 30 тысяч работнікаў клубаў, бібліятэк, музеяў, паркаў культуры і адпачынку, якія не ўваходзяць ні ў якія таварыствы або асацыяцыі. А гэта ж цэлая армія неабходных культуры людзей. Менавіта ў бібліятэцы, музеі, клубе і парку ў часы адпачынку чалавек спазнае і ўспрымае культуру ва ўсёй яе разнастайнасці. Менавіта работнікі ўстаноў культуры могуць многае зрабіць для выхавання ў людзях глыбокага, пачцівага стаўлення да культурнай спадчыны і для жадання развіць яе.

Мы, работнікі культуры, пераканаюы, што нам неабходна грамадская арганізацыя, якая каардынавала б і аб'ядноўвала дзейнасць устаноў культуры. Хопіць распальваць нездаровыя страсці і падаграваць шматгадовы антаганізм паміж дзяржаўнай і прафсаюзнай сістэмамі ўстаноў культуры! Хопіць глядзець на культасветработніка як на гультая, дармаеда і нахлебніка, як гэта сям-там думаюць і гавораць! Такое пагардлівае стаўленне да яго пры самай нізкай ягонай заработнай плаце (сярэдняя па рэспубліцы — 104 руб., на сяле — 90 руб. 50 кап.) стала прычынай масавага адтоку спецыялістаў сферы культуры. Час, нарэшце, зразумець, што прафесія работніка культуры павінна стаць у грамадстве такой жа патрэбнай, прэстыжнай і аўтарытэтнай, як прафесіі педагога, урача, інжынера.

Сёння наспела патрэба аб'яднацца ўсім работнікам культуры: работнікам клубных устаноў, бібліятэк, музеяў, паркаў культуры і адпачынку ўсіх ведамстваў у свае прафесійныя асацыяцыі, якія могуць забяспечыць:

актыўны ўдзел у культурным будаўніцтве праз заканадаўчыя ініцыятывы ў галіне культуры, што ўздыме аўтарытэт культуры ў шырокім яе разуменні ва ўсёй сферы духоўнага і матэрыяльнага жыцця рэспублікі;

удзел у экспертызе дзяржаўных, ведамасных, кааператыўных і іншых праектаў праграм і ўстаноў культуры, у тым ліку і па падрыхтоўцы кадраў;

вылучэнне кандыдатаў на прысваенне ганаровых званняў, зацвярджэнне прэмій і стыпендый;

юрыдычную і прававую абарону работнікаў культуры;

арганізацыю конкурсаў, аглядаў, фестываляў, аукцыёнаў, выставак, курсаў, школ, творчых лабараторый, семінараў;

збор, сістэматызацыю і распаўсюджанне сучаснай інфармацыі па ўсіх пытаннях, звязаных з дзейнасцю ўстаноў культуры ў рэспубліцы, краіне і за мяжой.

У перспектыве асацыяцыі па прафесійных накірунках маглі б выказаць сваю волю і ўтварыць Саюз работнікаў культуры Беларусі са сваімі правамі, статутам, друкаваным органам.

Заклікаем усіх работнікаў клубных устаноў, музеяў, бібліятэк і паркаў, усіх, каму неабыякавы лёс культуры і маральнае здароўе нацыі, выказацца і выявіць сваё стаўленне да нашага звароту.

Вашы думкі і прапановы можна пераслаць ініцыятыўнай групе на адрас: г. Мінск, Дзяржбібліятэка БССР імя У. І. Леніна, Інфармкультура (тэл. 22-53-84).

**У. ГРОМ, заслужаны работнік культуры БССР, дырэктар Крупіцкага СДК Мінскага раёна, мастацкі кіраўнік ансамбля «Крупіцкія музыкі»; С. БАТАЕЎ, загадчык навукова-даследчага аддзела Дзяржбібліятэкі БССР імя У. І. Леніна; І. ЗАГРЫШАЎ, дырэктар Дзяржаўнага музея БССР; Д. КУХАРАВА, заслужаны работнік культуры БССР, загадчыца аўтаклуба Стаўбцоўскага раёна; М. КАЗЕНКА, загадчык аддзела народнай творчасці Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры; Л. МАСЦІЦКАЯ, дырэктар Мінскага парку культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка; Н. УМНОВА, намеснік дырэктара Палаца культуры ВА «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна».**

# БЕЛАРУСЬ—СЛАВЕНІЯ: ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУВЯЗІ

Першымі замаразкамі сустрэла сталіца Славеніі Любляна ў канцы лістапада дэлегацыю Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, а славенскі горад Марыбор, дзе яшчэ добра помняць пастаўлены В. Раеўскім спектакль «Зацюканы апостал» па А. Макаёнку, — нават і першым снегам. Тым не менш перагаворы былі вельмі карыснымі і выніковымі. Дамоўлена, што ў 1990 годзе гледачы Мінска ўбачаць адзін ці два лепшых спектаклі драмы Славенскага нацыянальнага тэатра, а ў нацыянальным аглядзе лепшых спектакляў Славеніі ўвосень 1990 года будзе ўдзельнічаць па-за конкурсам спектакль купалаўцаў.

Калектывы абмяняюцца пастановачнымі брыгадамі: В. Ра-

# ЧАСОПІС НАБЫВАЕ СТАЛАСЦЬ

Свежы нумар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе». У пачатку — падборка матэрыялаў з вопыту настаўнікаў-славеснікаў Маладзечаншчыны. У раздзеле «Літаратуразнаўства» — гаворка аб творах У. Караткевіча, У. Дамашэвіча, Б. Мікуліча, С. Баранавых, К. Чорнага, прыход якіх запазніўся да чытача. Ёсць у нумары публікацыі да 500-годдзя Ф. Скарыны, 175-годдзя М. Ю. Лермантава, 150-годдзя Ф. Багушэвіча. Цікавасць выклікаюць раздзелы «Методыка мовы і вопыт», «Культура Беларусі» і іншыя.

Нумар — тыповы. Ён сведчыць аб тым стабільным коле асноўных праблем і тэм, якія імкнецца грунтоўна і кваліфікавана раскрыць чытачу творчы калектыў часопіса.

Вядома, знайсці нейкі адметны абсяг, сваё месца ў шматгранным жыцці сучаснай школы, і перш за ўсё ў паўнавесным адраджэнні ў ёй мілагучнага роднага слова, — задача даволі няпростая. Прыемна тое, што супрацоўнікі не пайшлі па цаліку, на вобмацак, напрасткі. Іх надзейнымі радцамі і свайго роду строгай «дзяржпрыёмкай» сталі чытачы. За няпоўныя два гады праведзена шмат сустрэч у самых разнастайных аўдыторыях. Кожная з іх дала нейкі важны арыенцір у фарміраванні зместу і пошуку аблічча выдання.

Думаецца, пэўны ўклад у гэту справу ўнесла нядаўняя размова на пасяджэнні камісіі па выкладанні мовы і літаратуры ў школах пры Саюзе пісьменнікаў БССР. Галоўны рэдактар часопіса М. Шавыркін пастараўся аб'ектыўна прааналізаваць зробленае. На яго думку, не заўсёды ўдавалася засяваць поле першагатунковым насеннем. Таму прычыны — складанасці ў фарміраванні аўтарскага актыву, адпрацоўцы тэхналагічнага працэсу. Толькі нядаўна рэдакцыя, нарэшце, атрымала памяшканне па праспекце Машэрава, 47. Прыкра, але сёлета не выпісвае часопіс 2,5 тысячы школ. Факт па-свойму сімптаматычны. Хапае і іншых праблем.

Між тым настаўнікі-практыкі пацвярджаюць несумненную карысць многіх публікацый. Гэта датычыць, у прыватнасці, матэрыялаў аб жыцці, творчасці і падзвіжніцтве Ф. Скарыны і К. Каліноўскага. Кампетэнтныя парады атрымалі педагогі па творчасці Я. Коласа, Я. Купалы, К. Чорнага, М. Лынькова, М. Танка, П. Панчанкі, В. Быкава, Н. Гілевіча, іншых пісьменнікаў. Характэрна, што іх творчасць разглядаецца ў кантэксце гісторыі, агульнага стану нашай культуры і мастацтва, літаратурнага працэсу. Гэта вымагае павелічэння не толькі аб'ёму часопіса, але і яго выхаду на навучальныя ўстановы ўсіх тыпаў. Як заўважыў М. Шавыркін, падставу да такога вываду даюць перспектывы вывучэння і ўжывання беларускай мовы ў ВНУ, тэхнікумах, вучылішчах, пазашкольных установах.

Падзяляючы думкі і прапановы рэдактара, члены камісіі выказалі шэраг слушных заўваг. Васіль Вітка, напрыклад, адзначыў, што сённяшні чытач ведае і ўмее зрабіць свой выбар, таму педагагічным выдан-

# КАНТАКТЫ ПРАЦЯГВАЮЦЦА...

Гасцямі Саюза пісьменнікаў Беларусі былі кітайскія літаратары Е Шуйфу і Лі Юэжань.

Е Шуйфу — прафесар Інстытута сусветнай літаратуры, выконваючы абавязкі старшыні Усекітайскага таварыства перакладчыкаў.

Лі Юэжань — прафесар, намеснік старшыні Усекітайскага таварыства перакладчыкаў, старшыні Пекінскага таварыства перакладчыкаў, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі выпускнікоў савецкіх ВНУ. Цікавая дэталь: у свой час Лі працаваў асабістым перакладчыкам Мао Цзэдуна, удзельнічаў у яго перагаворах з кіраўнікамі Савецкай дзяржавы. Цяпер ён напісаў кнігу ўспамінаў аб сваёй працы, якая мае выйсці ў Кітаі.

Абодва госці — члены Цэнтральнага праўлення таварыства кітайска-савецкай дружбы. Яны былі прыняты старшынёй Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі А. М. Ваніцкім. У сувязі з тым, што госці мелі не толькі творчыя мэты, а і пэўныя даручэнні ад кітайскіх фірм, якія знаходзяцца ў так званай свабоднай эканамічнай зоне, яны сустрэліся з першым намеснікам міністра гандлю БССР Т. К. Крывеняй і старшынёй Гандлёвай палаты БССР У. К. Лесуном.

Кітайскія літаратары мелі таксама гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі — з Максімам Танкам, Васілём Быкавым, Нілам Гілевічам, Анатолем Вярцінскім. Адбылася сустрэча ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Пра клопаты, якімі жывуць літаратуразнаўцы, пра планы, звязаныя з напісаннем новай гісторыі беларускай літаратуры, гаварылі Віктар Каваленка, Павел Дзюбайла, Адам Мальдзіс, Міхась Мушынскі, Васіль Жураўлёў, Уладзімір Гніламёдаў. Госці, са свайго боку, зазначылі, што з сучаснай савецкай літаратуры ў Кітаі ведаюць пераважна творы рускіх, беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, у прыватнасці кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Мележа, Петруся Броўкі, Янкі Маўра, Аркадзя Куляшова, Кандрата Крапівы, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Святланы Алексіевіч... Пакідаючы Мінск, кіраўнік дэлегацыі Е Шуйфу сказаў:

— Гэта паездка дапамагла нам шырэй глянуць на беларускую літаратуру, на яе багатыя традыцыі і сучасны літаратурны працэс. А мне, як галоўнаму рэдактару створанай у нашым інстытуце гісторыі савецкай літаратуры, дзе ёсць раздзел і пра вашу літаратуру, — многае ўдакладніць, паглыбіць, выправіць асобныя ацэнкі.

А. ГАРДЗІЦКІ.

*Ліст у рэдакцыю*

# Як ствараецца Цэнтр?

30 кастрычніка 1988 года міністр народнай адукацыі БССР М. І. Дзямчук зацвердзіў часовае Палажэнне пра Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і моладзі, які, па задуме, павінен «аб'яднаць намаганні дзеячаў мастацтва, літаратуры, навукі, фізічнай культуры і спорту, работнікаў народнай адукацыі, клубных устаноў, шырокай грамадскасці ў справе эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў...».

Гэта Палажэнне было ўзгоднена з усімі творчымі саюзамі, Дзяржкамспортам БССР, Дзяржбудам БССР. На жаль, на гэтым супрацоўніцтва паміж міністэрствам і творчымі саюзамі, грамадскімі арганізацыямі, ды і самімі бацькамі і дзецьмі закончылася. Між тым, у палажэнні адзначана: «...генеральны дырэктар РЦЭВ (Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання) праводзіць разам з **творчымі саюзамі і арганізацыямі** падбор намеснікаў і кіраўнікоў структурных падраздзяленняў і акрэслівае кола іх абавязкаў, праводзіць расстаноўку педагагічных кадраў РЦЭВ з **улікам думак вучняў і бацькоў...».**

Аднак Міністэрства народнай адукацыі ўзяло на сябе ўсе рашаючыя функцыі, і, трэба адзначыць, што вырашыла пытанні не самым лепшым чынам. Творчыя саюзы і грамадскія арганізацыі, усе зацікаўленыя ў нашым будучым сілы рэспублікі сур'ёзна заклапочаны метадамі, пры дапамозе якіх ствараецца РЦЭВ. На наш погляд, арганізацыя Цэнтра з самага пачатку абапіраецца на значныя парушэнні часовага Палажэння, што заведама асуджае гэта важнае грамадска значымае пачынанне на правал. Так, насуперак адпаведнаму пункту Палажэння, Міністэрствам народнай адукацыі на пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара валявым рашэннем, без абмеркавання з творчымі саюзамі і грамадскімі арганізацыямі быў прызначаны У. М. Іскрык, які, мякка кажучы, не лепшым чынам праявіў сябе на папярэдніх месцах працы. Такім чынам, усе пытанні па стварэнні матэрыяльнай базы, камплектаванні кадраў Цэнтра аддадзены на водкуп чалавеку, якога Міністэрства народнай адукацыі надзяліла ўладай у адзінай асобе. Але такі шлях немінуча вядзе да суб'ектывізму (у кадравым пытанні, складанні штатнага раскладу і інш.).

Гэтак жа па прынцыпу асабістага знаёмства, і зноў без удзелу Саюза тэатральных дзеячаў БССР на пасаду дырэктара тэатральнага комплексу РЦЭВ быў прызначаны Р. І. Баравік, які далёка не становча зарэкамендаваў сябе некалі на пасадзе галоўнага рэжысёра Тэатра юнага гледача.

Згодна пункту 4.5 Палажэння Міністэрству народнай адукацыі БССР трэба было адкрытым конкурсным рашэннем прызначыць генеральнага дырэктара па ўзгадненні з творчымі саюзамі і грамадскасцю. Аднак вылучэнне на пост генеральнага дырэктара РЦЭВ У. Ц. Гардзеенкі выглядала проста фарсам. Як мог «працоўны калектыў» з 10 чалавек (дзе амаль усе супрацоўнікі не маюць практычнага і пазітыўнага вопыту работы з дзецьмі) вырашаць лёс РЦЭВ без абмеркавання гэтай кандыдатуры творчымі саюзамі і грамадскасцю? Ці магчыма прызначаць на пасаду лідэра чалавека, які ніколі не працаваў з дзецьмі, не меў сваёй акрэсленай платформы (калі не браць пад увагу сумесную работу з У. Іскрыкам і Р. Баравіком у Тэатры юнага гледача)?

Больш таго, каб стварыць уяўнасць конкурсу на пасаду генеральнага дырэктара РЦЭВ, былі прапанаваны кандыдатуры паважаных у рэспубліцы дзеячаў культуры і мастацтва (Н. С. Гілевіча, Б. І. Сачанкі), якія пра гэта... нават не ведалі.

Словам, штатны расклад, усе структуры і падраздзяленні РЦЭВ ствараюцца келейна, без удзелу творчых саюзаў, грамадскіх арганізацый, бацькоў. Ігнаруецца думка і планы такіх арганізацый, як Фонд культуры, Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна, фонд «Міласэрнасць», фонд «Дзеці Чарнобыля», Таварыства беларускай мовы, ЦК ЛКСМБ, Беларускі экалагічны саюз, Саюз настаўнікаў БССР, педагагічнай грамадскасці, сродкаў масавай інфармацыі.

А можа, штатны расклад

## З пошты «ЛіМа»

□

**Яшчэ адной** спробай падтрымаць перабудову з'яўляецца артыкул В. Быкава «Назад ці наперад?»

Рэдка сёння можна сустрэць на старонках рэспубліканскіх газет такі спакойны, глыбокі і пераканаўчы дыялог з чытачамі аб сучасным палітычным жыцці ў нашай краіне. Думаецца, што ніводзін чытач не застанецца абыякавым да сказанага В. Быкавым і што кожны гатовы распавесці далей гутарку аб набалелым і хвалюючым.

Дык усё ж такі — куды мы ідзём? Назад ці наперад? «На жаль ці на шчасце, перабудовачны працэс болей падобны на перакочванне цяжкага каменя. З неверагодным напружаннем чалавек коціць яго на гару і не можа спыніцца, бо камень зараз жа абрынецца ўніз разам з тым, хто яго коціць, каб абодвум знікнуць у імглістым сутонні гісторыі». У гэтых радках вышэй памянёнага артыкула В. Быкава мы знаходзім адказ на пастаўленае пытанне. Сапраўды, у кожным грамадстве ва ўсе вякі жыве неадольная цяга да перайначвання да лепшага свайго жыцця. Так і сёння. Мы ідзём наперад, пакутліва, але ўсё ж такі — наперад.

Вельмі проста, але мудра сказана В. Быкавым аб перабудове. І не трэба тут нудных прамоў, няпэўных справаздач, заклікаў накшталт «Вперед, заре навстречу»... Трэба проста даць кожнаму магчымасць асэнсаваць сябе, падрыхтаваць тую ўзлётную пляцоўку, з якой можна было б надзейна стартаваць у жыццё.

Хочацца верыць, што пасля гэтага выступлення В. Быкава прыбавіцца ў нас прыхільнікаў перабудовачных працэсаў і паменшае «служыцеляў уз».

**Ф. ШУМЧЫК,**
**настаўнік.**
г. Мінск.

□

ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ БЕЛАРУСКАЙ ССР
РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**Мы, афіцэры** Узброеных Сіл СССР, ураджэнцы Беларусі розных нацыянальнасцей, рознага ўзросту, камуністы і беспартыйныя, звяртаемся з наступным лістом.

Мы служым далёка за межамі Беларусі, прайшлі, як кажуць, тундру, тайгу, пустыні. Мы вельмі рэдка бываем на Радзіме і рэдкія звесткі з Бацькаўшчыны даходзяць да нас. Але ніхто з нас не забыўся на Беларусь. Кожны, як самае дарагое, хавае ў сэрцы ўспаміны пра свой родны кут. Мы разам з вамі носім жалобу па ахвярах Курапат і Чарнобыля. Мы разам з вамі радуемся дасягненням роднай рэспублікі.

Нашы дзеці нарадзіліся за межамі Беларусі, растуць, не чуючы роднай мовы. Ім будзе намнога складаней, чым тым, хто жыве ў Беларусі, паступіць у беларускія навучальныя ўстановы, праявіць свае здольнасці ў беларускай літаратуры і мастацтве.

З кожным годам ірвуцца сувязі, якія лучаць нас з радзімай. Пад канец службы многіх з нас будуць чакаць дома магілы бацькоў. І, тым не менш, кожны з нас марыць вярнуцца дадому, але мы хочам вярнуцца ў Беларусь, а не ў Паўночна-Заходні край. Мы далучаем свае галасы да галасоў лепшых сыноў і дачок Беларусі, аднача лічым, што пара надаць беларускай мове статус дзяржаўнай мовы на ўсёй тэрыторыі БССР; перавесці ўсе дзяржаўныя і навучальныя ўстановы на беларускую мову.

Разам з тым лічым мэтазгодным гарантаваць свабоднае развіццё ўсіх моў народаў краіны; надаць прававыя гарантыі развіццю прыватных і кааператыўных навучальных устаноў на любой мове свету.

Права народа размаўляць на сваёй мове — святое права. І мы сёння з тымі, хто змагаецца за адраджэнне мовы, культуры, нацыі ў цэлым. Мы асуджаем тых, хто гэтаму адраджэнню замінае.

Мы звяртаемся да ўсіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі: калі прыйдзе час галасаваць за Закон аб мове, то перш, чым падняць руку, падумайце: у вашых руках не толькі лёс мовы, але і лёс Беларусі.

**С. СУДНІК,** падпалкоўнік;
**Л. ЧАРАПАН,** падпалкоўнік;
**С. СЕЛЯХ,** маёр;
**С. ПІЛЕЦКІ,** маёр;
**Н. УСОВІЧ,** лейтэнант.
(Усяго 21 подпіс).

Казахская ССР.

□

**У 1933 ГОДЗЕ незаконна рэпрэсіравалі нашага бацьку, Мельнікава Макара Яфімавіча, 1905 года нараджэння. Мне ў той час было 7 гадоў, сястры — 4, а брацішку — 3 месяцы. На гэтым няшчасці ў нашай сям'і не скончыліся.**

**У 1941 годзе за сувязь з партызанамі фашысты расстралялі маці, спалілі хату. Так мы засталіся круглымі сіротамі.**

**Адразу пасля вайны непаўналетніх сястру і брата перавезлі на Крайнюю Поўнач, у Варкуту, куды быў сасланы наш бацька... У гэтых мясцінах сястры давялося працаваць больш чым сорак гадоў. Адзінокі хворы чалавек, яна ніколі не мела сваёй сям'і і цяпер ёй асабліва цяжка, бо, як кажуць, няма каму нават вады падаць.**

**І вось мы вырашылі звярнуцца па дапамогу да мінскіх гарадскіх улад, каб яны далі дазвол на пераезд маёй сястры ў Мінск на пастаяннае месца жыхарства. Разумеем, што жыллё — гэта вялікая праблема, тым больш, у сталічным горадзе. Але мы ў Савецкай улады не прасілі ніякай матэрыяльнай кампенсацыі за нашы сіроцкія пакуты. Адно толькі папрасілі ў выключным парадку аказаць дапамогу сястры ў атрыманні жылля ў Мінску за ўласныя сродкі, г. зн. — кааператыўную аднапакаёвую кватэру. Каб чалавек мог дажыць свой век на роднай зямлі.**

**Пяць гадоў цягнуцца нашы «блуканні па пакутах». Я была на прыёме ў першага намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР У. Г. Еўтуха. Ён сказаў: няхай сястра прыязджае, прапісваецца згодна пастанове СМ БССР ад 28.07.1974 г. за № 678, а потым будзем вырашаць жыллёвае пытанне. Яшчэ ў 1986 годзе сястра так і зрабіла, выпісалася з Варкуты, прыехала ў Мінск, прадставіла неабходныя дакументы. Аднак гарвыканком, спасылаючыся на розныя прычыны, адмовіў у прапісцы сястры, у выніку яна вымушана была зноў вярнуцца ў Варкуту. З-за таго, што наша пытанне ў Беларусі вырашаць адмовіліся, я звярнулася ў ЦК КПСС. Пасля гэтага старшыня гарвыканкома т. Міхасёў адрэагаваў так: сястру прапішам, але па пытаннях жылля... не прыходзьце. Яшчэ адказ з гарвыканкома: «пасля прапіскі паставім на чаргу ў ЖБК, чакаць будзеце 8—9 гадоў». Але каму патрэбны кааператыў праз дзесяцігоддзе, ды і ці пражывём мы тыя гады?..**

**Што мы з сястрой маем сёння? Горыч і боль у сэрцы, сапсаваныя нервы.**

**Я — інвалід Вялікай Айчыннай вайны II групы, амаль тры гады сама хадзіла на смерць у якасці сувязной партызанскага атрада. Але ні мой лёс, ні лёс маёй сястры нікога не хвалюе сёння. Выходзіць, і да алкаголікаў, і да наркаманаў у нас увагі больш, больш клопату пра іх. А да тых, у каго знявечана дзяцінства, жыццё, да тых, хто сумленна працаваў на карысць грамадства? Ім ні дапамогі, ні пашаны няма.**

**Мы будуем прававую дзяржаву. Але хто і калі будзе плаціць даўгі за скалечанае дзяцінства, а цяпер яшчэ і скалечаную старасць?**

**Л. ПАПОВІЧ,**
**персанальны пенсіянер, інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**
г. Мінск.

## Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

# КАЛІ СУДУ НЕ ТРЭБА СВЕДАК



10 ЛІСТАПАДА мяне запрасілі ў суд Ленінскага раёна г. Брэста ў якасці сведкі абароны па справе арганізатараў жалобнага рэквіема, праведзенага 28 кастрычніка перад будынкам мастацкага салона па Савецкай вуліцы. Я ведаў, што работнікі райвыканкома і гарвыканкома прызналі запланаваны жалобны мітынг-рэквіем не разнавіднасцю традыцыйнага народнага абраду памінання продкаў, які на Беларусі мае назву Дзяды, а палітычным мітынгам і забаранілі яго.

Я ведаў, што была пададзена на імя старшыні абласнога Савета народных дэпутатаў т. Бурскага апеляцыя на некампетэнтнасць рашэння аб забароне. Сам параіў складальнікам заявы падкрэсліць, што на Беларусі, дзе здавён-даўна сужываліся розныя хрысціянскія канфесіі: праваслаўе, каталіцызм, уніяцтва і розныя евангелічныя абшчыны, прыжыўся ў народзе звычай святкаваць Дзяды вясною, на Радаўніцу, што адпавядае праваслаўнаму канону, і на ўсіх святых, восенню, што адпавядае каталіцкай традыцыі. У партызанах я быў на Міршчыне, у зоне праваслаўнай канфесіі, і, памятаю, людзі запрашалі нас на Дзяды восенню, верачы, што ў святы вечар нават паліцаі не асмеляцца праводзіць карныя акцыі. Не ведаю, ці напісалі гэтае тлумачэнне складальнікі апеляцыі, але адказу да пачатку рэквіема на сваю заяву арганізатары не атрымалі. Апавясціць людзей, згодных прыняць удзел у жалобным рэквіеме, аб забароне і адмяніць сход было ўжо немажліва. Паколькі адным з ініцыятараў было абласное аддзяленне СП БССР, членам прэзідыума якога я з'яўляюся, то я па абавязку і дадзенаму слову павінен быў прысутнічаць на рэквіеме, каб на выпадак перавышэння службовай аховы парадку мер спынення падзяліць лёс сваіх малодшых таварышаў і ў разе патрэбы выступіць у абарону ініцыятараў.

У Брэсце наспявала паўтарэнне канфрантацыі, якая мела месца ў Мінску год таму назад. Кіраўнікі Брэста не пажадалі чаму-кольвек навучыцца ў гісторыі, вырашылі пафанабэрыцца, паказаць вышэйстаячым службовую пільнасць, а ніжэйстаячым — сілу ўлады.

ТЭНДЭНЦЫЙНАСЦЬ, канфрантацыйны падыход мясцовага начальства да самадзейных грамадскіх і асветніцкіх арганізацый у Брэсце — з'ява вядомая. Ніводная самадзейная арганізацыя не мае тут свайго памяшкання, на такім рэжыме жыве і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР. Затое памяшканнямі забяспечаны мёртвыя душы з Таварыства барацьбы за цвярозасць, Таварыства кнігалюбаў і іншых фармалізаваных, упраўляемых зверху папяровых арганізацый. Невыпадкова, што ініцыятарамі святкавання Дзядоў выступіла Брэсцкая рэгіянальная рада БНФ «Адраджэнне» ды абласныя аддзяленні творчых саюзаў. Жывыя пажадалі памянуць продкаў. У пачатку падрыхтоўкі сакратар абласнога аддзялення СП БССР Мікола Пракаповіч пазваніў мне па тэлефоне і спытаў, ці згодзен я на тое, каб аддзяленне выступіла ў ролі ініцыятара разам з названымі партнёрамі. Я выказаўся за, бо меў даўнія падставы. Можа, дзесяць гадоў мне давялося ўваходзіць у склад камісіі аблвыканкома па выпрацоўцы новых абрадаў, я многа раз настойваў на тым, каб адрадзіць, аднавіць, прыдаць свецкую форму ўсім народным абрадам. Праекты новых абрадаў распрацоўваліся клубнымі работнікамі, на камісію траплялі радзінны, вясельны, а пахавальны — не. Я спрабаваў пераконваць камісію, што пахавальны абрад мае важнае выхаваўчае значэнне, бо ён заснаваны на самым глыбокім эстэтычным пачуцці — трагізме. Трагічнае патрасенне з выпадку смерці блізкага чалавека адольваецца дзякуючы родзічам і блізкім людзям, якія ўдзельнічаюць у абрадзе, наступае яднанне людзей у горы, і родзічы адчуваюць сябе атуленымі, падтрыманымі духоўна.

Адносіны да памерлых, да продкаў былі тады ў нас ганебна пагардлівымі, пра што сведчылі неабгароджаныя могліцы, струхлелыя часовыя знакі над магіламі. Дый цяпер абгароджванне могліцаў шмат у якіх мясцовасцях вядзецца не па падказцы сумлення і духоўнай патрэбе, а па плану добраўпарадкоўвання тэрыторыі за кошт калгаса і без удзелу грамадскасці. Вялікія выхаваўчыя традыцыі беларускіх народных звычаяў — дагляду магіл, памінання дзядоў на Усяночную, на Радаўніцу і восенню ў Дзень задушны — не ўсюды выкарыстоўваюцца для выхавання духоўнай культуры.

Будучы членам вучонага савета Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, мне давялося прысутнічаць на абмеркаванні рукапісу анаго з трыццаці шасці тамоў беларускага фальклору— «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні». Складальнік тома, У. Васілевіч, шмат гадоў аддаў збіранню матэрыялу. Яго калегі разумелі ахвярнасць і высокую якасць працы складальніка, прызнавалі унікальнасць гэтай кнігі. І ўсё ж азваліся асцярожлівыя душы колісь цёртых у жорнах вульгарнага сацыялагізму навукоўцаў: «Таварышы, — папярэджваў хтосьці, — у пахавальных абрадах і галашэннях, на жаль, вельмі многа хрысціянскага, царкоўнага элементу...» Выходзіла, што выданне мае ахілесаву пяту. Атэісты могуць успрыняць яго як ускосную падтрымку хрысціянскай рэлігіі і царкоўных абрадаў. Пачуўшы дух вядомай навуковым асяродкам уступлівасці за кошт аўтара, я спытаўся: «Адкуль жа ўзяла пахавальны абрад хрысціянская царква? Хіба хто з прысутных верыць, што абрад гэты быў скінуты з неба? Але ж евангелісты сведчаць, што пахаванне Хрыста было праведзена па народных абрадах, прынятых на Блізкім Усходзе. Яго пахавалі так, як хавалі простых людзей у Ізраілі. Аплаквалі па звычаях і абрадах назарацян, племені, да якога належаў ён, з якога выйшаў. Пахавальныя абрады належаць народнай культуры, царква іх запазычыла ў народа, а не наадварот. Царкоўнікі закансервавалі свабодны абрад, прыдалі рытуалу кананічную замкнёнасць. У народзе абрады жывуць адкрытымі і цяпер, іх можна дапаўняць, змяняць. У розных сацыяльных асяроддзях у розныя часы існавалі адметныя тыпы абрадаў. Напрыклад, аўтар «Хронікі літоўскай і жамойцкай» даў нам апісанні пышных пахаванняў язычніцкіх князёў Швінтарога, Нарымонта, Міндоўга. На жэглішча клалі поруч з целам памерлага яго любімага слугу, баявога каня, паляўнічага сабаку, сокала, меч і лук са стрэламі. Хрысціянская царква вывела грубую язычніцкую пыхлівасць нават з каралеўскіх пахаванняў, падвяла абрад пад евангельскі культ беднасці і пакуты. На пахаванні караля Жыгімонта Старога перад катафалкам ішло паўтары тысячы спецыяльна скліканых жабракоў. Шэсце азначала, што толькі бедныя падданыя могуць заступіцца за каралеўскую грэшную душу перад святым богам. Аднак жа кароль пры жыцці заказаў сабе пышную мармуровую капліцу, сам наглядаў за працай італьянскіх майстроў і, прымаючы ўсыпальніцу, пахваліў іх: «Гэта зроблена добра».

Каб засароміць апанентаў, я нават расказаў пра звычай папуасаў, якія, пахаваўшы старэйшыну рода, танцуюць на магіле, а потым спальваюць вёску і ўцякаюць у другое месца, каб душа нябожчыка не магла знайсці жывых і помсціць. Ад тых дзікіх нораваў застаўся ў народзе, здаецца, толькі адзін звычай — выносіць нябожчыка нагамі ўперад, каб не вяртаўся дамоў. Паднялася вострая дыскусія.

Усе мы засталіся радыя, што пераважыла на савеце думка друкаваць беларускія народныя галашэнні. Традыцыйныя парады аўтару — яшчэ раз перагледзець рукапіс і г. д. — не вялікая бяда.

**Мікола ТРАФІМЧУК**

●

Душу ўстрывожыла раздолле,
адкрыўся сэрцу небакрай...
Давай надыхаемся ўволю
вясной, памаладзелы край!

І з гэтым прагным і адзіным
дыханнем прыйдзе адкрыццё:
у кожным лісціку — радзіма,
у кожнай кропельцы — жыццё.

І ў гэтым веснім акіяне
нарэшце мо уваскрашу:
у кожным воблачку — дыханне,
у кожным вобліку — душу.

●

Баюся,
што многае сёння губляю:
маўчу найчасцей,
найрадзей размаўляю.

Баюся,
што многае сёння губляю:
за дзень аддаю —
што за два набываю.

Баюся,
што многае сёння губляю:
мне б жыць-не тужыць,
а я — часу не маю!

●

Я луг зялёны ў сэрца не ўмясціў,
а марыў умясціць усю планету!
Хіба змагу адсюль куды пайсці,
не прычакаўшы будучага лета?

Пераджыву абрыдлую імжу,
і маразы, і белую завею...
І не пераступлю жыцця мяжу,
пакуль не ўбачу:
луг мой зелянее...

## *Жыццё*

Дакучлівае сонца на спіне
і мулкая сцяжына пад нагамі...
І гэты рух канчаецца не намі
і пачынаецца не намі. Не!

Спыніцца —
значыць, у кругазварот,
не выйшаўшы з яго
ізноўку трапіць,
і траціць сілы,
дух высокі траціць
на ўсё, што ёсць
Жыццё,
Зямля,
Народ.

**Павел ШРУБ**

●

Патрабуюцца, патрабуюцца
рукастыя,
што не турбуюцца —
робаты
без вачэй і губ —
вось вам пэндзлі
заводскіх труб,
малюйце з баваўняных хмар
ядавіта-пярэстых пачвар...
«Патрабуюцца... Патрабуюцца...» —
аб'явы на кожнай будцы.
Сярод тысяч
ніводнай, хоць дробненькай
(хоць ты ўзвый ад шаленства!):
«Патрабуецца
майстар па воблаках,
каб былі з чысцінёй маленства...»

**Алесь КАЖАДУБ**






АПАВЯДАННЕ

ЗА ЎСЮ РАНІЦУ — з подсвяту да прыпёку — Аляксей падбіў толькі дзвюх качак. Настраляўся да звону ў вушах, а пацэліў усяго двойчы. Другую качку збіў, можна сказаць, па дарозе дахаты, ледзь не апошнім патронам. Наездзіўся, настраляўся, а ўжо напляваўся — нават сліны ў роце не засталося. Ды што ты будзеш рабіць, калі тыя качкі то задалёка, то завысока, адна шлёпнулася ў ваду якраз пасярод азярца, без сабакі не дастанеш. А самому раздзявацца і лезці ў халодную жнівеньскую ваду — толькі людзей смяшыць. Вось і пляваўся наўздагон качкам, махаў кулаком, смяяўся і ледзь не плакаў. Затое дахаты ехаў спустошаны, галава, як гарбуз без семак, стукні па ёй — загудзіць.

«Ніва» звыкла скакала на купінах і калдобінах, перапаўзала з адной палявой дарогі на другую, дзе проста імчала ўскрай поля, і галоўкі высокіх траваў стукалі па ветравым шкле, абсыпалі машыну пераспелым насеннем. Казытала ў носе, слязіліся вочы, зацякала выцягнутая шыя. Хацелася хутчэй выбіцца на добрую дарогу, нага ціснула на педаль газу, — і машына ледзь не ўскочыла ў вялізную яміну, якая разлягалася пасярод поля з мінулага лета. Так, якраз у гэтым месцы год назад успучыў зямлю магутны выбух. Адзін з вайсковых самалётаў, якія часта праносіліся над іхняй вёскай, не выйшаў з нейкага свайго піке і трэснуўся аб зямлю. Расказвалі, што рухавік улез у яе на некалькі метраў, як іголка ў масла. Згарэў фюзеляж, пілота і следу не знайшлі, а рухавік, камяк расплясканага металу, дасталі.

Яміна зеўрала сярод поля вялікая, яшчэ не зарослая травой, і глядзець на яе было вусцішна. Магіла, а не яміна.

Аляксей павольна аб'ехаў яе — і паімчаў паўз малады лясок, які неяк ацалеў між трох шырокіх палёў іхняга калгаса. Звычайна Аляксей спыняўся тут — машына залятала на груд, прабівала рэдкую сцяну кустоўя, рэзка спынялася на паляне. Гэта быў салаўіны лясок. У маі, калі пад лагодным, яшчэ не надта пякучым сонцам разгортвалася, развіналася маладое зяленіва дрэў і траваў, сюды падбіваліся салаўі з усяе аколіцы. Відаць, іх найбольш вабілі якраз вербалозы з чаромхамі, што густа атачалі бярозавы гаёк. Зацвітала чаромха, і адзін перад адным заходзіліся нябачныя салісты. У якую-небудзь з майскіх начэй Аляксей браў ватоўку, кавалак хлеба з салам, каб было чым раніцай перакусіць, і начаваў тут у машыне. Салаўіны аркестр граў без перадыху, і Аляксей распазнаваў у ім асобных маэстра, якім лягчэй было памерці, чым саступіць. Яны і не саступалі, шчодра раскідваліся жывымі гукамі, і расквечвалася начная цемра, цяплела. Аляксей убіраў, усмоктваў яе не толькі вачыма, вушамі, вуснамі, але і скурай. Раскрывалася чорная глыбіня неба, і мігатлівае, зменлівае святло каляровых зорак паколвала чалавека, працінала. Зямля падавалася насустрач небу, зацягвалася ў магутны вір сусвету, і чалавек кружыў разам з ёй, кружыў дзесьці побач з зоркамі...

Аднак у жніўні ні салаўёў, ні чаромхавай квецені, ні лагоднай мяккасці сонца. Горача ў жніўні, у роце суха, галава, як барабан. «Да вады трэба падскочыць», — здагадаўся Аляксей. Сапраўды, там і перакусіць можна. Жонка заўсёды сварылася, калі ён вяртаўся з некранутым пакункам, у якім сала, хлеб, цыбуля, соль. На паляванні ён забываўся пра ежу, успамінаў пра яе толькі каля хаты.

Вялікае штучнае возера, па мясцоваму БАМ, было зусім побач. «Ніва» з натугаю ўспаўзла на круты насып — Аляксей нібы ўпершыню адчуў тую крытычную кропку на грэбні стромы, калі машына альбо дагары коламі, альбо ўсё ж умацуецца наверсе, і заўсёды ўсё заканчвалася шчасліва, — і лёгка паляцела па асфальце. Гэты БАМ заблішчаў вялізным вадзяным люстрам усяго пяць гадоў назад, але мясцовы люд ужо і не верыць, што яго магло не быць. Назва БАМ узнікла адразу, як толькі пачалі ўзводзіць бетонныя берагі. Нейкім днём прыгналі сюды шмат тэхнікі, выцерабілі хмызнякі і падлесак, пракапалі доўгія, аж да Дняпра, каналы, накацілі роўную, гладкую, раней тут такой і не было, дарогу, і людзі пачалі перадаваць па вёсках, што гэта будуюць БАМ, наш БАМ, свойскі. Пайшла па каналах дняпроўская вада, возера напоўнілася, зайграла пад сонцам, і з вёсак, спачатку нясмела, па адным, а потым як не ўсе разам пацягнуліся людзі. Вада — яна і ёсць вада, каля яе нават думаецца крыху не так, як у лесе ці ў полі. А тут яшчэ завялася рыба, залаты карась, ды ў такой колькасці, што рыбакі-небаракі зусім згубілі галаву. Пра іх і так гавораць: хто вудзіць, той гаспадаром не будзець. Зараз жа не толькі дзядзькі і хлопцы abляпілі возера, як мухі каровіную ляпёху, але і цёткі махалі нехлямяжнымі вудамі, цягалі плотак і карасёў. А ў маі, калі рыба ішла на нераст, між рыбаловамі было не ўшчаміцца, хіба што стаўшы ці сеўшы бокам да вады. Свістала жылка, трашчалі катушкі, плёхалі грузілы, чапляліся за суседзяў кручкі — і ўсюды варушыліся ў сетках і садках карасі, лупілі на людзей круглыя ачмурэлыя вочы, дыхалі шчэлепамі, плямкалі тоўстымі губамі, зрэдку ляпалі хвастамі.

Аляксей аднойчы заскочыў сюды якраз у маі — і жахнуўся. Убачыў суседа, калгаснага заатэхніка, спусціўся з насыпу да яго, стаў за спінай. Той адно бліснуў запалым вокам, матнуў галавой, але адарвацца ад спінінга не здолеў. «Бярэцца?» — спытаў Аляксей — і сам жа зразумеў недарэчнасць пытання. Сусед затрашчаў катушкай, ліхаманкава закруціў, павёў спінінгам, зачапіўшы Аляксея — і на бетон вывернуўся з вады, загнуўшы чапялою хвост, вялікі карась, закалаціўся, высока падскокваючы. «Малайчына, — пахваліў Аляксей, з намаганнем падымаючы поўную сетку, — кілаграмаў дзесяць, не меней». — «Парсюкоў ужо рыбай кармлю, — не падымаючы галавы, сказаў сусед, — увесь адпачынак тут сяджу, няма калі дахаты заскочыць».

Аляксей рыбалоў быў ніякі, за ўсё жыццё мо пару разоў лазіў па канавах з брадніком, не пазайздросціў і зараз, адно падзівіўся: «І ўсім жа рыбы хапае! А вас тут не менш тысячы». — «Ты на возера зірні, — параіў сусед, — такога ні на Дняпры, ні на Сажы не ўбачыш».

Цяпер на возеры было пуставата — усё ж не май, а жнівень. Плёхала невялічкая хваля, пацямнелую ваду, загушчэлую, свінцовую, ужо восеньскую, не прабівала сонца, зайчыкі слізгалі па ёй, сляпілі вочы, кігікалі па-над берагам кнігаўкі, адале парыпвалі над захаладалай роўнядззю чайкі, і Аляксей з хрустам пацягнуўся, выпрастаўся, паціху пайшоў краем вады, крыху і заступаючы ў яе. І раптам убачыў Пятра Куліка, таго самага суседа-заатэхніка, з якім сустрэўся тут у маі.

— У цябе, брат, і выхадных не бывае, — засмяяўся Аляксей, падыходзячы. — З мая сядзіш?

— Ды во на пару гадзін падскочыў, — ніякавата затупаў Пятро, — але цяпер кепска бярэцца. Вецер памяняўся.

— Ну-ну, — згадзіўся Аляксей, уладкоўваючыся на ватоўцы. — Мо перакусім? Табе з гэтай рыбай, відаць, і паабедаць няма калі. Давай, у мяне ўжо даўно кішкі марш іграюць.

— А ты што, з палявання? — паклаў спінінг Пятро, апаласнуў рукі, выцер іх аб штаны. — Як ты зараз са Станкевічам, адпускае пастраляць?

— Я ў яго не пытаюся, — буркнуў Аляксей, разгортваючы пакунак.

Сваркі старшыні калгаса Станкевіча і агранома Яроменкі абрыдлі ўжо не толькі ім самім, але і людзям. Жывуць, як кошка з сабакам. Апошні тыдзень, праўда, зацішша, вось Аляксей і выбраўся на балота. Са жнівом збольшага ўправіліся, дажджоў вялікіх не было, так што можна было ўзяць адгул, перадыхнуць. Але гаварыць пра Станкевіча, пра сябе, пакрыўджанага, пра тоны непрасушанага збожжа на току не хацелася. Не той дзень сёння, ды і не той чалавек, каб гаварыць пра набалелае.

Аляксей расклаў вяндліну, цыбулю, хлеб, соль на газеце, кіўнуў Пятру — давай. Пацягнуўся за хлебам — і раптам знерухомеў.

— Гаварыў жа, каб не чапала гэтую газету! — паскардзіўся невядома каму, углядаючыся ў радкі.

— А што такое? — таксама скасавурыўся на газету Пятро, адразаючы вяндліну. — Выйгрышная табліца.

— Якая табліца!.. Карты радыяцыйнага забруджання. Гэта ж якраз той нумар, у якім былі карты надрукаваныя. Спецыяльна хаваў газету, каб не знайшлі — і вось жонка сала загарнула. Ніякага розуму ў бабы...

— На халеру табе гэтая карта? — не зразумеў Пятро. — Усё адно ніхто не скажа, ёсць у нас радыяцыя ці няма.

— Дакумент.

— Не памром, пражывём гадоў пяць-дзесяць, вось табе сапраўдны будзе дакумент. А з гэтых картаў не зразумееш нічога.

Зрэшты, Пятро гаварыў праўду. На ўсіх картах іхні раён, суседні з Хойніцкім і Брагінскім, паказаны як абсалютна чысты. А ў той год, як выбухнула Чарнобыльская станцыя, у Аляксея доўга не прымалі збожжа — бруднае. На току высіліся вялізныя гуры, яшчэ большыя, чым зараз, і ніхто не ведаў, што з гэтым збожжам рабіць. Прыязджалі нейкія людзі, спецыялісты, замервалі збожжа сваёй апаратурай, шапталіся між сабой, пераміргваліся, ненадоўга зачыняліся ў кабінеце старшыні, і не заўсёды з ім разам, пасля знікалі. Было ясна, што збожжа бруднае, заражанае тымі радыенуклідамі, пра якія раптам даведаўся і вясковы люд, аднак наколькі ўсё небяспечна, ніхто не ведаў. А потым і збожжа прынялі. «На спірт пойдзе, — гаварылі людзі. — З хлеба харошы спірт выйдзе, найлепшы». Аднак жа ніхто і на свае вочы не бачыў, што іхняе збожжа папраўдзе пайшло ў перагонку. Прынялі — і ладна. У Аляксея як гара з плячэй. Гідка на душы, калі твой хлеб нічога не варты, ляжыць перад вачыма, мокне, дзе і прарастае, бо ніхто за яго не бярэцца, не падыходзіць. Гэта ўжо і не хлеб, а так, непатрэбшчына, нават свінням не аддасі, раптам атруцяцца? А звезлі з вачэй — і палягчэ-

## *Чаму?*

Чаму на месцы, дзе трэба жыту,
расце трава;
чаму мудрэй за ўсіх нас разам
далёка не мудрая галава?

Чаму ссякаем вышэзныя дрэвы,
*каб пасадзіць дубцы;*
чаму высвятляем:
гэта быў геній,
як таму капцы?

Чаму ў лабірынт
шлях прамы закручваем,
каб нагадваў турму?
Я стаў дарослым
і мне надакучыла
пытанне дзіцячае: «Чаму?.. Чаму?..»

## *Зонныя музыкі*

Зноў зайгралі ў зялёныя скрыпкі
музыканты да поту на лбе,
і разгойдвае сонныя шыбкі
сонца на гулкай трубе.

Выбягайце ж усе на падворкі,
каб вясельная чара пайшла...
*Хлапчукі, час паскочвацца з горкі*
пад раскацісты клёкат бусла.

Толькі дзе вы, малодкі і дзевы,
чарнавусыя палешукі?
Па дварах бадыліны, як дрэвы,
а па хатах адны скразнякі...

Ах, як граюць нямыя музыкі
у зялёныя скрыпкі вясны!
Не саромейся, край без'языкі,
скамянелых слязінак сасны...

Іх ніхто ў гэты поўдзень вясновы
не заўважыць у свежай траве,
бо асфальт на стагоддзі вясковы
чорнай стужкаю на рукаве...

## *Чорныя кветкі*

На спрадвечнай маёй
церплівай зямлі
не знаю, ці ўгледзелі Вы,
як чорныя ландышы
ўпершыню зацвілі
ў ценю зламанай царквы.

Пазней яны
са здзічэлых прысад
выходзілі на шлях,
па якім «кулакоў» кулакамі з хат
навек выганялі ў лапцях.

На шумным нядаўна
Палессі маім,
бяды уранавай сведкі,
растуць у рудым незямным гаі
чорныя, чорныя кветкі...

Могуць здацца яны Вам
за снег бялей
(як і многае ў кругаверці),
могуць вабіць сваёй чысцінёй,
але
Вы ў белы іх колер не верце...

●

Лёгка пакінуў я восень,
што пахла кастрыцаю,
дзяўчыну залатакосую
пад вярбою ніцаю,

сяброў і бацькоўскі дом, —
хоць так шчымела, —
я быў тады юнаком
і я кінуў смела.

І толькі пасля спасціг:
усё, што аддзелена часам,
яшчэ ніколі ў жыцці
не збіралася разам.

ла людзям, можна ўсміхнуцца. Без хлеба назаляюць на душу чуткі: малако есці нельга, ягады нельга, да яблыка таксама не цягнецца рука. Грыба ўзяў у сасняку за вёскай, ды не аднаго, паўтара дзесятка тоўсценькіх, моцных, з шакаладным пылком на шапачках дабрачкоў, — і на патэльню не кінуў. Засушыў. Атруты нідзе не было відаць—і яна была ўсюды, а галоўнае, абселася ў людскіх галовах, паспрабуй адтуль выбіць. На дарогах мылі вадой машыны, па тэлевізары паказвалі, як абмывалі хаты і хлявы, нават зямлю некуды вывозілі самазваламі, а вось што з галавой зробіш?

Да Аляксея на другі год пасля аварыі заехаў дваюрадны брат з Мінска. Аляксей паказаў яму БАМ, свой салаўіны лясок, накарміў вясковымі прысмакамі, каўбасамі з кумпяком, ну і да кумпяка было, як без гэтага. А ў садзе пачаставаў свойскім яблыкам, сабе сарваў і даў аднаго брату. Яблыкі ўжо наліліся сокам і пахам, пырскалі на зубах. Брат разгублена круціў вялікі яблык у руках, не ведаў, што з ім рабіць, куды запхнуць, куды кінуць. Няёмка было і Аляксею, і брату, жонка таксама хавала вочы, яна ўсё бачыла.

Нават яблыкам не пачастуеш брата, куды ўжо далей?!

І вось праз тры гады пасля аварыі выйшаў дазвол надрукаваць карту радыяцыйнага забруджання Беларусі. Як той казаў, і трох гадоў не прайшло, як галоснасць і дэмакратыя запанавалі ў друку, так ляснулі па бюракратыі, ажно пошчак пайшоў. Аляксей глянуў на карту—і пачухаў патыліцу, паківаў галавой. Канечне, іхні раён быў чысты, чысцей не бывае, а вось суседнія Брагін і Хойнікі, нават Нароўля ўсе спрэс у значках. І тлумачэнне: там, дзе значкі, патрэбен часовы альбо пастаянны кантроль. Вялікі клопат аб чалавеку можна было ўбачыць на тых картах. Вось тут моцна забруджана, там не вельмі, у гэтых мясцінах амаль зусім чыста, а ў іхнім раёне радыяцыі не было і знаку.

— Чаму гэта ў нас усё чыста? — здзівілася жонка, паглядзеўшы тую карту.—Каб мы не жылі тут, дык і паверылі б, што няма радыяцыі. Відаць, прысніласся нам тое збожжа. Маці вунь павезла ў горад на базар журавіны, ледзьве рукі не абарвала тым кошам, пракляла ўсё на свеце. А ёй на базары і кажуць: «Дзе ягады збіралі, туды і вязіце. А ў горадзе выкідваць нельга». Паўнюсенькі кош ягад. Так і паехала назад, плачучы. За хлевам закапалі.

— Якая можа быць радыяцыя, калі ў нашым раёне некалькі пасёлкаў для высяленцаў пабудавалі...—раззлавана адкінуў газету Аляксей.—Людзі і так не хочуць там жыць, на свае котлішчы рвуцца, а з радыяцыяй зусім... З агню ды ў полымя.

Але газету з картамі ён усё ж не парваў, вывучаў яе мо з месяц. А пасля згадзіўся — усё правільна на тых картах намалявана. Правільна ў тым сэнсе, што ні іхні раён, ні сам Гомель атручанымі быць не маглі. Якраз побач з Гомелем правялі граніцу забруджанай зоны, ну і да іхняга горада яна не дапяла. Не далі ёй дапяць. У Гомелі паўмільёна жыхароў, ды ў іхнім горадзе тысяч сто. А колькі яшчэ ў вёсках... Калі б сюды радыяцыю—не адзін мільён людзей правяраць ды высяляць трэба. Некаторыя і ўцякаць бы кінуліся, штурмавалі б вакзалы, як у Кіеве. Дапусціць гэта было нельга—і не дапусцілі. Акуратна ўсё зроблена. І правільна.

Ён ужо зусім быў супакоіўся, хацеў схаваць газету ў шуфляду стала, аднак Валька, дачкасямікласніца, узялася пераносіць на вялікую карту Беларусі, якая вісела на сцяне, усе плямы забруджанасці, ад малых да вялікіх. Захацелася—хай малюе. А нейкім днём Аляксей спыніўся каля карты, прысвіснуў. Плямы былі не толькі ў Брагіне, Хойніках і Нароўлі, яны распаўзаліся амаль па ўсёй Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Добруш, Ветка, Чачэрск, Карма, Слаўгарад, Чэрыкаў, Быхаў... На апошнім горадзе, Быхаве, была зусім невялічкая плямка, аднак якраз яе ён і спалохаўся. У той самы чарнобыльскі год, калі меншую Вальку на лета адправілі ў санаторый пад Слуцк, ён адвёз жонку і старэйшую дачку Галю да радні ў Быхаў. Тры тыдні сядзелі на дзядзькавай шыі, самі нудзіліся і назалялі людзям. Схаваліся, ліха яго матары. Н-да, лепшае месца, канечне, цяжка было знайсці... Гэта вось пра такіх, як ён, кажуць: свет вялікі, ды дзецца няма дзе. Што ты будзеш рабіць... Добра, хоць Ніна быццам і не заўважыла той плямы на Быхаве. Праўда, іхнюю сям'ю ўжо цяжка чым-небудзь настрашыць, абвыкліся.

Але як жа гэта жонка не паглядзела, у што загортвала сала з хлебам? А можа—наўмысна?

Аляксей зірнуў на Куліка. Той абыякава жаваў, адвярнуўшыся ад газеты, цікаваў за нацягнутай жылкай, што як бы рэзала ваду.

— Як ты думаеш,—спытаў Аляксей,—карась гэты мо з радыяцыі так развёўся?

— Што?—няўцямна залыпаў вачыма Пятро. — З радыяцыі?.. Ды не, возера прыдатнае. Вада добра праграецца, ніякіх брудных сцёкаў, нават з поля не зацякае. Чыстае возера. І браканьераў уначы ганяюць. Калі нічога не здарыцца, яшчэ паловім рыбкі.

А можа, сапраўды не варта тлуміць сабе галаву? Лаві вось рыбу, пастрэльвай качак, у грыбы хадзі, нават збірай журавіны. Не трэба толькі тыя журавіны вазіць на базар, каб настрой не псаваць, а проста збірай ды еш. Квашаная капуста без журавін—зусім не тое. І боршч без грыбоў не боршч. Жыві, чалавеча, пакуль жывецца, не бяры ў голаў нічога лішняга. Два жыцці ўсё роўна не пражывеш.

Далёка разлягаўся азёрны абсяг, на процілеглым беразе захінуўся ў шызую хустку-апінку лес, не разглядзець у ім асобных ялін, бяроз ці сосен. Вялікае возера наліў вадою чалавек. Але і тут ён не ўсё разлічыў. За дамбаю на палях пачала выціскацца вада. А палі гэтыя ці не самыя лепшыя ў калгасе. І з кожным годам вады ўсё болей. Нікому не ў знак, што лезе балота, смокча, глытае ўрадлівую зямлю. Дзе з гэтым балотам ваююць, як з лютым ворагам, сушаць, не разбіраючыся, патрэбна зямлі і людзям гэтае асушэнне, ці не, а тут як вочы засляпіла. Ды і адгаворка ёсць: вадасховішча зроблена ў стратэгічных мэтах. А што гэта за мэты, тутэйшым людзям ведаць неабавязкова. Мэты — і пагатоў. Радуйся, чалавек, што рыбку лавіць можаш.

— От мы і радуемся,—сказаў Аляксей,—рыбы тут пакуль што багата.

— Го, рыбу нам лавіць не пералавіць, — пацвердзіў Пятро.—Я вось пра што думаю. Колькі гадоў жыцця ты сабе даеш?

— Як гэта?—не зразумеў Аляксей.

— Ну вось нам з табой пад пяцьдзесят, мне крыху болей, табе паменей, але пад пяцьдзесят, — пачаў для яснасці паказваць на пальцах Пятро. — Я сабе даю яшчэ пятнаццаць, максімум дваццаць. У нас ужо ў адкрытую пішуць, што жыццё нядоўгае, а я і без іхняй пісаніны знаю, што доўга не пражыву. Так?

— Так, — згадзіўся Аляксей.

— Цяпер гэтая радыяцыя... Апошнім годам ва ўсіх бралі кроў на аналізы. дык кажуць, што кроў кепская, асабліва ў дзяцей. Я сабе яшчэ пяць гадоў скідваю. Колькі застаецца?

— Бухгалтар,—павёў доўгім, як у грака, носам Аляксей. — Ніхто не ведае, колькі пражыве.

— Кінь!—адмахнуўся Пятро.—Не хочам ведаць—гэта другое дзела. А дзе-та там у душы здагадваемся. Значыць, застаецца дзесяць, сама болей пятнаццаць гадоў, калі разам з наследсцвеннасцю... Ну і як мы іх пражываць будам?

— Дзеці не дадуць задумацца, — усміхнуўся Аляксей. — Адна дачка пойдзе замуж, другая... яшчэ і ўзрадуешся, што жыць нядоўга.

— Ты не круці, не круці!..—падскочыў сусед. — Дочкі без цябе мужыкоў знойдуць. А вось ты сам, так сказаць, сам лічна што думаеш?

— І думаць не хачу, — адвярнуўся да возера Аляксей. — Хата стаіць недабудаваная, што называецца, ні самому глянуць, ні людзям паказаць... Каму яна цяпер патрэбна, каб і захацеў прадаць?

— Вось іменна!—пераможна глядзеў на яго заатэхнік. — Я рашыў на возеры сядзець. Гары яно гарам з іхняй радыяцыяй і аналізамі. Ехаць мне няма куды, ды і позна перайначваць жыццё, гэта ж не проста ўзяў ды пераехаў у суседнюю вёску. Нанова пачынаць трэба. Не-е, думаю, на возера пайду. Тут хоць сэрца спакойнае, не цісне.

— Можа, і праўда...

А вось у самога Аляксея сэрца цісне, і сон няйдзе, бывае, да раніцы круціцца ў ложку. Назбіраў увосень каліны, цяпер узвар п'е, але не надта памагае. Канечне, у жыцці прычына, у думках. Вось гэта мяняць трэба. А Пятро чыстую праўду сказаў—позна мяняць. Ён сабе возера знайшоў. А ты, таварыш аграном, кавалер, так бы мовіць, ордэна «Знак Пашаны», усяго месяц назад уручылі гэты ордэн, як аднаму з лепшых у раёне? Што ты сабе думаеш?

Кінуў у ваду некалькі каменьчыкаў, паглядзеў, як разыходзяцца кругі. Не, возерам ён не ўратуецца. І качкамі, што ляжаць у машыне, таксама. Не ведае аграном, як лячыць сваю хваробу. А гады, якія засталіся напаследак... Дык не хочацца дажываць іх! Жыць хочацца, нагбом піць, як першы ў жыцці бярозавік.

Вось ягоны дзядзька ў горадзе памёр, цыроз печані. Нават дактары сказалі: стан хворага рэзка пагоршыўся пасля чарнобыльскай аварыі. І сам дзядзька нікольки ў гэтым не сумняваўся. Ён мужык быў такі, што думаў, тое і гаварыў, усім. А самому сабе найперш. «Радыяцыя дakaнала,—крактаў ён на ложку ў апошнія дні,—ужо не выкараскацца... Хоць бы не мучыцца доўга...» Ды як з ёй не мучыцца, з вадзянкаю.

Дзядзька пражыў шэсцьдзесят гадоў з паловаю. Хіба гэта гады? Да старасці не дажыў. Пры яснай памяці памёр чалавек, у розуме, за некалькі дзён да скону дыктаваў дачцэ нумары тэлефонаў блізкіх і далёкіх сваякоў, якіх трэба паклікаць на хаўтуры. У яго была бухгалтарская памяць на лічбы, таму ніколі і не запісваў нумары ў кніжцы...

Мужчыны падняліся, Пятро кінуўся правяраць вуды, Аляксей пасунуўся да машыны.

Дахаты ён паехаў праз пасёлак, пабудаваны для высяленцаў з Брагінскага раёна. Доўгі шнурок аднолькавых, шчыльна пастаўленых хат вырас у чыстым полі, здавалася, хаты і крочылі некуды праз гэтае поле пад высокім небам. Як дрэвы на закінутым старадаўнім шляху, што выбрылі ў поле—і знерухомелі, спыненыя моцным ветрам. Хаты выдавалі неабжытымі, нават пустымі, хоць у многіх з іх і жылі людзі. Павінны былі жыць. У гэтага пасёлка і назва была, аднак Аляксей яе не памятаў. Адно слова—выселкі.

«Дзіва што людзі тут жыць не хочуць,—думаў ён, калываючыся на выбоістай, раз'езджанай трактарамі і цяжкімі грузавікамі дарозе. —З роднай хаты ды ў голае поле. Хоць бы дрэўца ці якая копанка...»

Аднак ні дрэўца, ні лужыны, толькі кучы смецця пад вокнамі, бітая цэгла, шлак, жалязякі. Умеюць у нас пабудаваць. Каб не толькі чалавек — варона спалохалася, вунь адна ўцякае да зацішнага лесу. «Цікава, прызнаемся мы калі-небудзь прылюдна, што і тут была радыяцыя? Нешта не падобна...»

«Ніва» вільнула ў завулак, спынілася, ледзь не тыцнуўшыся бамперам у плот. Аляксей дастаў з багажніка стрэльбу, сумку з паляўнічым рыштункам, дзвюх качак, засунуў іх галовамі пад папругу. Збольшага абтрусіў пыл са штаноў, прыдзірліва агледзеў сябе—ну, як фацэт? У паляўнічага павінен быць выгляд—як з малюнка. Адчыніў весніцы, а з сенцаў ужо выглядвала Ніна, з-за спіны цікавала і Валька. Сустракаюць бацьку, усё правільна.

Ён на хаду дастаў адну качку, падкінуў яе на руцэ: бачыце, што сёння на вячэру будзе? Але сказаць ніхто нічога не паспеў. Качка раптам страпянулася, стукнула крыламі, пырхнула з рукі—і бокам, бокам нырцанула за плот, а там, з кожным узмахам крылаў набіраючы вышыню, пацягнула паўкругам над вёскаю, знікаючы ў глыбокай яснасці неба.

Аляксей так і застыў, задраўшы галаву. Ніна рагатала, выціраючы рукамі слёзы, дачка таксама адварочвала твар, уздрыгвала худзенькімі плячыма. Добра, хоць гэтая не навучылася яшчэ ў адкрытую смяяцца з бацькі.

— Халера на цябе!..—нарэшце ачомаўся Аляксей, схапіўся абедзвюма рукамі за другую качку. — Чым жа я страляў у іх?!

Каб жа і табе было да каго ўцячы, чалавеча...

А качка ляцела, далёка ляцела, да сіняга мора-акіяну, да зялёнага вострава-Буяну. Гэх, ды каб падбіць тую качку, ды залатое яйка дастаць, а з яйка іголку... Мо б і ўратаваліся як-небудзь, га, людцы?

Аўтар пералічвае ганарар у Беларускае аддзяленне Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна на рахунак № 707 («Дзеці Чарнобыля»).

# «...Да якіх звяртаюся з павагай і любоўю»

**Адной з сенсацый сучаснага міжнароднага жыцця стала, безумоўна, нядаўняя сустрэча М. С. Гарбачова з папам рымскім Янам Паўлам II. Сустрэча, якую сусветная грамадскасць назвала небеспадстаўна «гістарычнай». Дзякуючы тэлебачанню мы маглі назіраць яе, маглі выслухаць прывітальныя прамовы, якімі абмяняліся кіраўнік Савецкай дзяржавы і «папеж» (польская форма звароту), кіраўнік рымска - каталіцкай царквы. «У Вашай асобе, — да народаў свету, якое прагучала пасля ўступлення на святы прастол, у кастрычніку 1978 года, гучала разам з іншымі і беларуская мова. Магчыма, гэтая акалічнасць, імкненне вылучаць і нацыянальную прыналежнасць католікаў нашай краіны, паспрыяла таму факту, што да 1000-годдзя хрышчэння Русі (Беларусі і Украіны) была створана і перададзена ў беларускай праграме радыё Ватыкана «Малітва за Беларускі Народ» (на беларускай мове,**



**звяртаўся Ян Павел II, — я хачу таксама вітаць народы ўсіх рэспублік Савецкага Саюза, да якіх звяртаюся з павагай і любоўю». Далей гаспадар Ватыкана нагадаў: «У мінулым годзе мы святкавалі 1000-годдзе хрышчэння Русі. Таго хрышчэння, якое пакінула вельмі глыбокі след у гісторыі народаў... Я хачу, пан Прэзідэнт, разглядаць Ваша наведанне як цудоўны плод гэтага святкавання 1000-годдзя і, у той жа час, як шматабяцальны залог будучага».**

**Большую частку сваёй прамовы папа рымскі сказаў па-руску. У друку падкрэслівалася, што ён валодае рускай мовай. (Ён увогуле паліглот, ведае шэсць замежных моў). У сувязі з гэтым заўважым, што папа звяртаецца і да мовы беларускай. У яго тронным пасланні натуральна). Сёй-той чуў і ведае гэтую малітву. Але каб лепш пазнаёміцца з яе тэкстам, мець уяўленне пра яе ідэйную скіраванасць і стылёва-моўныя асаблівасці, мы рашылі перадрукаваць гэты своеасаблівы дакумент часу са штокварталь-ніка «Радыё Ватыкана (праграмы)». Спадзяёмся, што звышпільныя атэісты не западозраць нас у рэлігійнай прапагандзе. Тым больш, што ў апошні час мы пачынаем, здаецца, прывыкаць да такіх духоўных праяў, як малітва, казань, літургія (набажэнствы на мітынгах-рэквіемах, нядзельныя маральныя і духоўныя пропаведзі па ЦТ і г. д.).**

## Малітва за Беларускі Народ

Сусьветны Валадару, Прадвечны Божа. Ты ўвесь сусьвет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў. кожнаму месца і мэту назначыў, а людзкі род так бясконца палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў на зямлю, каб усе слухаючы Яго навуку ды ідучы Яго сьледам, увайшлі ў Твае Нябесныя Валадарства. Мы дзеці Беларускага Народу, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасьці чалавечае часта падалі і зьневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, нашу нядбайлівасьць у адносінах да сябе самых і да іншых; даруй таксама тым, хто нас крыўдзіў і зьневажаў. Молім Цябе шчыра, барані нас ад крыўды варожай, і дай нам ды ворагам нашым шчодраю Твае рукою, духа сапраўднае хрысьціянскае любові. Дай нам еднасьць у веры, згоду ў сямейным і грамадзкім ды палітычным жыцьці. Загаі нашы асабістыя і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе спрычынілі. У нашым штодзённым жыцьці, ў змаганьнях і спакусах, асьвяці наш разум Тваім евангельскім сьвятлом, каб мы, захоўваючы Твае прыказаньні, перамаглі ўсе цяжкасьці і цярпеньні, ды заўсёды Цябе блаславілі. Пашлі Беларускаму Народу сьвятых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, чэсным і мудрым жыцьцём і дзейнасьцю вялі б Народ да лепшае долі. Дай нам сьвятое духавенства. Блаславі нашы сем'і, каб у кожнай з іх дбалы бацька і ахвярная маці, злучаныя шчыраю сьвятою любоўю, выхоўвалі Табе на славу, Бацькаўшчыне на карысьць сваіх дзетак. Асаблівую ласку дай нашай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысьціянскае ўзгадаваньне, і ўзрасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Блаславі таксама нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна разьвіцца і закрасаваць Табе на славу, а ўсяму людству на карысць. Блаславі працам сялянства на ральлі, працоўным у фабрыках, вучоным ува ўсіх галінах навукі, мастацтва і тэхнікі, каб за іх помаччу Беларускі Народ мог разумна і прыгожа жыць ды разьвівацца.

Цябе, Найсьвятая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а Ты сьвятая Эўфрасіня Полацкая — патронка Беларусі — ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам сьвятым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланніцтва, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў будучым жыцьці атрымалі вечнае шчасьце, і Табе прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсьць і паклон на векі вечныя. Амін.

# ДЫК ШТО Ж ДАЛЕЙ?

**Саюз кампазітараў Беларусі ў люстэрку свайго X з'езда**

НАДАКУЧЫЛА, відаць, кампазітарам нерухомае жыццё ў іх «саюзе непарушным». І на гэты раз паспрабавалі яны нешта ў сваім жыцці зрушыць: хто — рацыянальнай прапановай з трыбуны, хто — эмацыянальным заклікам да з'езда, а хто і выклікам яму. Праўда, зусім недарэчным выклікам — накшталт, выбачайце, аплявухі сабе ж самому. Бо як жа яшчэ трактаваць такую акалічнасць: кампазітары абвясцілі чарговы з'езд, наважыліся перадусім прыняць абноўлены статут, па сутнасці, першы самастойны статут беларускага кампазітарскага саюза, а кворуму пры галасаванні гэтага асноватворнага дакумента на першым з'ездаўскім пасяджэнні не сабралі. Давялося склікаць пазапланавае пасяджэнне...

Можа, многія не пайшлі, каб выказаць такім чынам волю да самаліквідацыі саюза? Дзе там! Паспрабавалі б вы загаварыць пра тое, што зафармалізаваная суполка не патрэбна кампазітарам, што яе варта распусціць на ўсе чатыры бакі, і няхай кожны ладзіць свае адносіны з наваколлем як можа, — вас тут жа запэўнілі б, што саюз патрэбны ўсім. Патрэбны як месца ў чарзе па жыццёвыя даброты і прывілеі.

«Які ў нас саюз? Сабес... Кватэры, машыны, пуцёўкі, званні, пенсіі», — па-старэчы раўнадушна тлумачаць кампазітары, хоць многім з іх да пенсіі далекавата. Рана, і не без прыкладу сталейшых калег, спасцігнуўшы гэтую «жыццёвую мудрасць», яны мала вераць у тое, што саюз мог бы праявіць сябе як месца прафесійных, творчых, духоўных, проста чалавечых зносін...

Не чакайце, мае чытачы, што пасля такіх суб'ектыўна-невясёлых уступных акордаў пяро вашага карэспандэнта выдасць аб'ектыўна - мажорны пасаж. Набярыцеся цярплівасці, каб пачытаць вытрымкі з прамоў, якія гучалі ў зале пасяджэнняў, і, думаю, вам няцяжка будзе разабрацца, ці адпавядае мінорная танальнасць гэтых нататак аб'ектыўнай атмасферы на з'ездзе.

●

Для пачатку — пераказ справаздачнага даклада праўлення СК, з якім выступіў яго старшыня **І. Лучанок.**

Ва ўсіх сферах нашага жыцця, гаварыў ён, сёння ідзе перабудова. Неабходная яна і ў нашым творчым саюзе — неабходная, як паветра. Рэальнасць такая, што аўтарытэт СК, і раней не надта высокі, працягвае падаць. Як бы ні было горка пра гэта казаць, але гэта факт, які неабходна прызнаць. І ў ім — адлюстраванне агульнага духоўнага крызісу грамадства, падзенне прэстыжу творчых прафесій і культуры ў цэлым.

**Аглядаючы вынікі працы СК за 5 гадоў, прамоўца адзначыў, што ў цэнтры яе былі найперш пытанні творчасці і прапаганды беларускай музыкі. За справаздачны перыяд праведзена чатыры пленумы праўлення, адбыліся супольныя пленумы з іншымі творчымі саюзамі рэспублікі і з Музычным таварыствам БССР, а таксама гутаркі за «круглым сталом» з прадстаўнікамі часопіса «Советская музыка». Праведзены шэраг навукова - практычных і навукова - тэарэтычных канферэнцый па актуальных праблемах беларускай музыкі. Трывалай традыцыяй зрабіліся творчыя дыскусіі пасля канцэртаў фестывалю «Мінская вясна». Прадстаўнікі камісіі музыказнаўства (Г. Глушчанка, Т. Дубкова, Б. Смольскі, Л. Сцяпура) праводзілі ў Гомелі, Гродне і Брэсце выязныя пасяджэнні за «круглым сталом», прысвечаныя аналізу музычнага жыцця і эстэтычнага выхавання ў абласных і раённых цэнтрах.**

Колькі слоў пра работу кіраўніцтва. Прыём у саюз і абмеркаванне праграм пленумаў і фестываляў, выдавецкія справы і вылучэнне кандыдатур на атрыманне прэмій і ганаровых званняў, пытанні творчага жыцця і гаспадарчай дзейнасці — цяжка, гаварыў І. Лучанок, пералічыць усе тыя праблемы, якімі даводзілася займацца праўленню за мінулыя гады. Новай тэндэнцыяй у працы праўлення, якая адлюстроўвае дух часу, зрабілася галоснасць і адкрытасць пасяджэнняў, куды мелі права прыйсці ўсе члены СК.

Цяпер — пра творчасць.

Прамоўца зазначыў, што ўмацоўваюцца міжнародныя сувязі беларускай музыкі. У розных краінах выконваліся творы А. Багатырова, Ю. Семянякі, Я. Глебава, Д. Смольскага, П. Альхімовіча, А. Залётнева, Г. Вагнера, У. Дарохіна, А. Мдзівані, В. Кузняцова, У. Солтана, Л. Захлеўнага, Р. Суруса; на Кубе рыхтуецца пастаноўка балета С. Картэса «Апошні з інкаў». Развіваюцца і кантакты з зарубежнымі калегамі, прынамсі, за гэтыя гады адбыліся чатыры сустрэчы з польскімі кампазітарамі.

Набывае прызнанне беларуская музыка і на ўсесаюзным узроўні. Музычная камедыя Я. Глебава «Мільянерка» пастаўлена ў Маскве, Кемераве і Ташкенце. Ажыццёўлена ўжо трэцяя пастаноўка оперы С. Картэса «Матухна Кураж» (пасля Каўнаса і Кішынёва—у Якуцку). Творы Р. Суруса «Судны час» і «Несцерка» ставіліся, адпаведна, у Ленінградзе і Смаленску. У Ленінградзе, Ульянаўску, Горкім, Адэсе выконваўся шэраг твораў В. Капыцько. У Маскве гучалі сімфанічныя опусы А. Мдзівані, В. Кузняцова, А. Елісеенкава, У. Дарохіна, С. Картэса, шматлікія камерныя творы. Ладзіліся абменныя канцэрты, беларуская музыка гучала ў рэспубліках Прыбалтыкі і Закаўказзя, на Украіне, у Казахстане, Кіргізіі, Узбекістане, у гарадах Расійскай Федэрацыі. Асобныя творы набылі гастрольную папулярнасць: Трэцяя сімфонія Д. Смольскага за адзін толькі год гучала ў Сочы, Тбілісі, Кутаісі, Ерэване, Сумгаіце, Баку; у розных гарадах выконваліся Канчэрта гроса № 2 П. Альхімовіча, п'еса для народнага аркестра «Жалейка» В. Кузняцова, кларнетавы, цымбальны і скрыпічны канцэрты Г. Вагнера.

**Аднак музыка беларускіх кампазітараў мала гучыць у нашай краіне па лініі СК СССР і Цэнтрмузінформа. Ім не да нас. У гэтым выяўляецца непавага СК СССР да культуры цэлай рэспублікі. Не знайшлося месца для твораў беларускіх кампазітараў і ў праграмах міжнародных фестываляў, праведзеных у Маскве і Ленінградзе. Хоць мы і ведаем, што вартасныя творы ў нас ёсць, гаварыў І. Лучанок.**

**Затым ён адзначыў працу нашых фалькларыстаў і музыказнаўцаў (З. Мажэйкі, Т. Шчарбаковай, А. Ладыгінай, А. Ракавай), прызнаўшы, аднак, што, хоць поспехі і ёсць, агульная сітуацыя ўсё ж даволі засмучальная. Не хапае важкага прафесійнага слова пра музыку, крытычнага асэнсавання сучаснага музычнага працэсу. Няма эстэтычных і тэарэтычных абагульненняў творчасці, вострых крытычных маналогаў - роздумаў пра стан музычнай культуры. А гэтага патрабуе час.**

**Члены СК удзельнічаюць у традыцыйных Тыднях музыкі для дзяцей і юнацтва, у сустрэчах з працоўнымі рэспублікі. Музычныя лекторыі ў вясковых школах вядзе В. Сізко, у дзіцячай бібліятэцы імя Я. Маўра — К. Сцепанцэвіч; у мінскім дзетдоме № 2 наладжваюць лекцыі - канцэрты Э. Тырманд і Г. Гарэлава.**

**Пры ўсім значэнні асобных мерапрыемстваў нельга забывацца пра галоўнае — пра стварэнне цэласнай сістэмы прапаганды беларускай музыкі, з далучэннем радыё, тэлебачання, канцэртных арганізацый рэспублікі. На сённяшні дзень такая комплексная праграма — і мы вымушаны гэта канстатаваць, падкрэсліў І. Лучанок, — адсутнічае. Але яна мусіць з'явіцца—і, думаецца, у сценах самога СК, пры арганізацыі Інфармцэнтра ў рамках саюза. Пакуль жа ў нашым агульным доме ўспыхваюць кулуарныя размовы, спрэчкі, крычаць амбіцыі, а вось музыка ў сценах СК ужо гучыць рэдка. І прычына не толькі ў працяглым рамонце памяшкання, а, думаецца, — у маральна-псіхалагічным, маральна-этычным клімаце саюза, у адасобленасці кампазітараў, у няўменні і нежаданні слухаць думку калег, у браку цікавасці да іхніх твораў.**

Наступныя старонкі даклада займае ладны пералік твораў розных жанраў, напісаных беларускімі кампазітарамі за апошнія некалькі гадоў.

Падводзячы вынікі дзейнасці нашай арганізацыі за мінулае пяцігоддзе і адзначаючы ўсё станоўчае, мы мусім прызнаць, працягваў дакладчык, што надта многае ў выніках нашай працы не можа нас задаволіць. Рыхтуючыся да выступлення, ён перагледзеў стэнаграмы мінулых з'ездаў і заўважыў дзіўную рэч: тое, пра што цяпер гаворым на поўны голас, чулася ў выступленнях членаў СК і раней. Наша агульная бяда і боль, што за пераможным маршам «росквіту нацыянальных культур» мы не пачулі трывожных нотак надыходзячага крызісу.

Музыка нашых дзён перажывае нялёгкую часіну. Гэта датычыць і музыкі беларускай, даводзіў прамоўца. Мы не ведаем усёй музыкі сённяшняй, мы забыліся на лепшыя старонкі нашай класікі, мы адлучыліся ад сваіх каранёў, забыліся на сваю гісторыю і культуру мінулых стагоддзяў. Неабходна адраджэнне. Ідэя развіцця беларускай «мовы» для нашай музыкі заўжды была актуальная. Мы не заклікаем да нацыянальнай абмежаванасці, мы катэгарычна супраць нацыянальнай замкнёнасці, мы за высокі агульначалавечы змест нашых твораў, ды было б проста злачынствам выракацца сваёй сакавітай роднай мовы, скарыстоўваць яе толькі для расфарбоўкі нацыянальна - безаблічных партытур.

**Сёння, як ніколі раней, мы з трывогай углядаемся ў будучыню нашага саюза, гаварыў І. Лучанок. Як узняць яго аўтарытэт? Некаторыя лічаць, што саюз увогуле не патрэбны. Як даказаць важкасць творчай працы кампазітараў, яе вялікую ролю ў адраджэнні духоўнай культуры нацыі? Шляхоў тут многа. Гэта і стварэнне новых таленавітых опусаў ва ўсіх жанрах і формах, што, вядома, заўжды было галоўным. Гэта і карэнны пералом сістэмы прапаганды нашай музыкі. І больш актыўныя зносіны з народам праз стварэнне рэпертуару для шматлікіх самадзейных калектываў, якія вельмі чакаюць ад нас такіх твораў. Гэта і сур'ёзнае стаўленне да нашых праблем і патрэб з боку міністэрстваў і ведамстваў. (Далей І. Лучанок разважаў пра**

Барыс Сачанка

# Запіскі аб радыяцыі



**24 жніўня г. г. у «ЛіМе» была змешчана першая частка «Запісак аб радыяцыі» Б. Сачанкі. Сёння прапануем увазе чытачоў заканчэнне нататак.**

□

**Нарэшце,** пачалі называць галоўных вінаўнікаў чарнобыльскай трагедыі. Гэта перш за ўсё былы прэзідэнт Акадэміі навук СССР А. Аляксандраў, пад кіраўніцтвам якога група канструктараў стварыла недасканалы рэактар РБМК-1000 і запусціла яго ў вытворчасць. Немалая віна і Дзяржкамгідрамета СССР (старшыня Ю. Ізраэль): памеры бяды — сумарны выкід — там ацанілі ў 50 мільёнаў кюры радыеактыўнасці, хоць на самай справе ён быў у дзесяткі разоў большы. Вінаваты, вядома, і ўсе тыя, хто не гаварыў праўды, што своечасова не прыняў мер па інфармацыі і эвакуацыі насельніцтва з пацярпелых раёнаў.

Ці лягчэй ад гэтага ўсім, хто страціў сваю «малую радзіму», хто пакутуе сёння на бальнічных ложках? Хто...

□

**Яшчэ адна смерць** — памёр дваюрадны брат маёй жонкі, які жыў і працаваў у Крычаве. Зусім, здаецца, нядаўна быў ён у нас у гасцях у Мінску, здаровы, вясёлы, поўны самых розных планаў на будучае. І вось— няма яго жывога...

Ці вінавата ў гэтай смерці радыяцыя? Не ведаю, але ўсё адно думаю, што вінавата, што гэта яна, праклятая, кладзе аднаго за адным маіх равеснікаў у магілу...

□

**Раней,** калі прыязджаў я ў вёску, мне не хапала лета, каб зрабіць усё, што хачу. Я хадзіў па ягады і грыбы, ездзіў на веласіпедзе ці на падводзе касіць і грэбсці сена, памагаў абганяць бульбу, убіраць ураджай. А то браў комлю і ішоў на канавы лавіць карасёў, шчупакоў, уюноў... Ды і з людзьмі ж цэлымі днямі не расставаўся — то яны прыходзілі да мяне, то я ішоў да іх. Была і чарка, і скварка, а галоўнае, былі гутаркі, размовы... Колькі і чаго я чуў, колькі прывозіў пасля лета з дому назіранняў, сюжэтаў!..

Цяпер, пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, мне хапае і дня, каб перабачыцца з роднымі, пабыць на могілках. А ўсё астатняе... Нават размовы з людзьмі страцілі цікавасць і сэнс... Астаецца хіба адно — выйсці з хаты і, гледзячы на знаёмы змалку краявід, завыць, як выюць у Піліпаўку ваўкі...

□

**Думаю** пра нашу чалавечую прыроду. У нашым Вялікаборскім сельсавеце не ўсе палі і вёскі засыпаны аднолькава радыенуклідамі. Ёсць і чысцейшыя. І вось, калі пасылаюць працаваць на чысцейшыя палі людзей, многія адмаўляюцца— плата ж меншая. Знайшліся і такія, хто з чысцейшых вёсак перавёз у нашую свае хаты, каб атрымліваць надбаўкі — «грабавыя»...

□

**Брат Пятро.** Старэйшы за мяне на тры гады, а цяпер, пасля смерці Колі, і наогул самы старэйшы. Худы, і ўвесь час курыць, курыць. Жыве там жа, у вёсцы.

— А мы, — кажа ён мне, — прывыклі ўжо да гэтай радыяцыі. Нават у «зону» часцяком ездзім.

— А ў «зону» чаго?

— Запчасткі бяром. Там жа, проста на калгасных дварах, уся тэхніка пааставалася. І трактары, і сеялкі, і машыны... Ды і так багата чаго. То мы забіраем...

— Дык гэта ж зараза...

— А ў нас усё цяпер з гэтай заразай... І ядзім жа яе і п'ём, і дыхаем ёю... Так што... Больш ці менш — гэта ўжо не мае значэння. У нас вунь у вёску з Брагінскага раёна людзей перасялілі. Дык яны ездзяць сеяць свае соткі, даглядаць пасевы. А ўвосень адтуль і ўраджай прывозяць... Нічога, жывуць! Жылістыя палешукі, нішто ім не страшна... Нават радыяцыя...

□

**Сядзім з маці,** гамонім.

— Нешта ж часта пачалі паміраць у нас людзі, — уздыхае, прызнаецца маці.—Во ходзіць-ходзіць чалавек, потым за грудзі схопіцца... Брык — і няма...

— І хто найчасцей памірае?— пытаюся. — Старыя, маладыя?

— Не, во такога веку, як ты. Мужчыны. Тыя, хто за каровамі ходзіць, у лесе працуе, ці на трактары...

І маці бярэцца пералічваць, хто за апошні час памёр. Называе імёны, прозвішчы...

І я ўспамінаю іх, маіх таварышаў. З гэтым вучыўся ў школе, з гэтым бегаў па ягады і грыбы, з гэтым лазіў у суседскія вішні, яблыкі...

Радыяцыю не ўспамінаем — пра вяроўку ў доме вісельніка не гавораць...

□

**Надрукавана** яшчэ адна карта — гэты раз па шчыльнасці забруджвання тэрыторыі рэспублікі стронцыем-90. Мая вёска, мой родны, мілы Вялікі Бор абнесены на карце перарывістымі лініямі, гэта значыць, там стронцыю-90 выпала крышку менш, чым у тых вёсках, якія адсялілі ўжо ці адселяць у бліжэйшыя гады... Але ж выпаў яшчэ і цэзій... Ды і іншыя радыенукліды таксама ж... Цэлы букет... І калі скласці іх усе разам... Колькі кюры прыпадзе на адзін кіламетр?.. Ды што тыя кіламетры... На душу, на чалавека?..

□

**Сустрэў даўняга свайго знаёмага, які ў час аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ды і пасля яе жыў і працаваў у Хойніках. Сумнага, з апушчанай галавою.**

— Што з табой?

— Ды быццам нічога, — пацiснуў плячыма мой знаёмы. — Вось з палiклiнiкi іду...

— Захварэў?

— Урачы нічога не знаходзяць.

— Дык радуйся.

— Радавацца? — гмыкнуў знаёмы. — Чаму?

— Ну, што здаровы...

— Каб жа так, — паківаў галавою знаёмы. — А то ж... — І дадаў ціха: — Спаць не магу... Удзень нічога... А ўначы як задумаюся, як успомню... Я ж усе тыя дні правёў у некалькіх кіламетрах ад рэактара... Ды і дзеці ж увесь час са мною былі, жонка... А цяпер, як выяўляецца, абпраменьваў і сябе, і сваіх блізкіх. Як усё гэта адаб'ецца на здароўі? І маім і ўсіх астатніх...

І пайшоў, апусціўшы яшчэ ніжэй галаву.

□

**Пазваніла** жонка майго былога настаўніка Леаніда Акімавіча Сушчанкі. Прыехала ў Мінск да дачкі, і вось хоча са мною пабачыцца.

Сустрэліся. Вядома, у старой жанчыне цяжка пазнаць былую маладую дзяўчыну, што іншы раз прыязджала да нас у вёску і прыходзіла разам з Леанідам Акімавічам да нас на ўрок. Сорак жа гадоў мінула! Але я ўсё ж пазнаў яе.

— Як Леанід Акімавіч?—было першае маё пытанне.

— Хварэе, — быў адказ.

— Што ў яго?

— Адкрыліся франтавыя раны. А потым... — яна памаўчала. — Новая хвароба...

— Якая?

— Ой, Барыс Іванавіч, лепш не пытайце... Мы жывём там жа, ля Стралічава, за Хойнікамі. Стаміліся, не дай бог... То, кажуць, выселяць нас, то раптам адмяняюць рашэнне. Словам, не вытрымаў ён... У Навінкі вось прывезла... Надта ж на яго гэтая радыяцыя падзейнічала. Да дачкі трэба было б пераехаць, у Мінск...

— Дык у чым справа?

— Усё яшчэ вырашаецца справа. Вось і да вас я пазваніла, можа, дапаможаце ці што параіце?.. Вы ж Леаніда Акімавіча добра ведаеце...

Сапраўды — Леаніда Акімавіча я ведаю. Вучыў ён мяне ў пятым і шостым класах. Малады, прыгожы. Хіба кульгаў трохі на адну параненую нагу. Пісаў вершы. Вядома, памагчы Леаніду Акімавічу трэба. Але як? Ды і хто перашкаджае выязджаць чалавеку, куды ён хоча? Спярша забрудзілі край, а потым і прывязалі там людзей — хочаш ці не хочаш, а жыві!

□

**Прыехала** да мяне ў горад з вёскі маці. Упершыню без гасцінцаў.

— Выбачайце, дзеткі, — сказала яна, адчуваючы быццам няёмкасць, — але я нічога не прывезла вам з дому.

— Ну дык і што?

— Думала, думала, што ўзяць — і нічога не ўзяла. Яшчэ паатручваю вас...

— Але ж сама ты там жывеш...

— Я старая ўжо, паміраць мне пара. А вам жа жыць вунь колькі яшчэ трэба! І каб я сама... Вас... Сваіх дзяцей... — пакруціла яна галавою — Во да чаго мы дажыліся...

І заплакала...

А я падумаў: «А тыя маці, што жывуць там, у забруджаных радыенуклідамі вёсках, гэта ж робяць—атручваюць сваіх дзяцей, кормячы іх штодзень «нячыстымі» прадуктамі...

□

**«Чарнобыльскі шлях»...** Вецер, дождж і небывалы для канца верасня холад. І ўсё адно сабраліся тысячы людзей. З лозунгамі, транспарантамі. Патаптаўшыся трохі ля парку Чэлюскінцаў, выкіраваліся на Ленінскі праспект і па ім праз увесь горад падаліся да Дома ўрада. На плошчы ля педінстытута імя Горкага пачаўся мітынг. Выступаюць вучоныя, пісьменнікі, людзі з тых раёнаў, што забруджаны радыенуклідамі...

Абурае не толькі, што акцыю не падтрымалі афіцыйныя ўлады, але і тое, што тых, каму трэба было б ведаць праўду пра людское гора, няма на плошчы, яны не чуюць, пра што гавораць, што перажываюць ні ў чым невінаватыя людзі...

□

**Тры, два, год, нават паўгода таму назад гаварыць праўду пра чернобыльскую бяду нікому не дазвалялася. Наадварот, як толькі дзе яна з'яўлялася, яе глушылі...**

**І раптам загаварылі. І друк, і радыё з тэлебачаннем, і на сесіях — Вярхоўнага Савета рэспублікі і Вярхоўнага Савета СССР. Каб толькі справы не разыходзіліся са словамі, з рашэннямі і пастановамі.**

□

**На сесіі** Вярхоўнага Савета БССР прынята Дзяржаўная праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Цаны гэтай праграме не было б, калі б яна была прынята ў той самы 1986 год, адразу ж пасля аварыі. А так амаль чатыры гады жылі на забруджаных землях людзі, займаліся сельскагаспадарчай вытворчасцю, атручваліся самі і атручвалі іншых сваімі прадуктамі. І толькі пад націскам грамадскасці праграма гэтая, нарэшце, распрацавана...

Кожная вобласць, кожны раён мае цяпер канкрэтны план дзеянняў. У Гомельскай вобласці будуць выселены дзесяткі населеных пунктаў, у тым ліку раённыя цэнтры Брагін, Нароўля, Ветка... Хойнікі астаюцца, астаецца і мой Вялікі Бор... Радавацца гэтаму ці не?.. Не, няма радасці і за тых, каго высяляюць, і за тых, хто астаецца... Сапраўдная радасць была б толькі тады, калі б не было аварыі, калі б людзі жылі на спрадвечнай бацькаўшчыне і не думалі ні пра якое ліха... А так...

□

**У Брагінскім раёне** нарадзіліся пісьменнікі Раман Сабаленка, Сымон Блатун і Мікола

---

*Народная творчасць*

# Днём жывём ці перспектывай?

Летась адбыўся Міжнародны фестываль фальклору ў Маскве, у якім ад Беларусі прынялі ўдзел фальклорна-этнаграфічны калектыў «Знаходка» вёскі Тышкавічы Іванаўскага раёна і ансамбль песні і танца «Лідчанка» гарадскога Дома культуры Ліды. Наступны такі фестываль пройдзе на Украіне ў 1990 годзе, а пасля прыйдзе наша чарга прымаць гасцей. Здаецца, час ёсць, рана біць у званы. Але справаздачныя канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці шасці абласцей, прысвечаныя 70-годдзю ўтварэння БССР і КПБ, паказалі, што ў Беларусі захавалася вельмі мала калектываў аўтэнтычнага фальклору.

У нас яшчэ сустрэнеш у некаторых вёсках жывых носьбітаў фальклору. Мы павінны ганарыцца, што нам няма патрэбы рэстаўрыраваць, шукаючы па навуковых крыніцах, свой фальклор, як гэта вымушаны рабіць сёння многія народы свету. Спадчына ў нас існуе, нягледзячы на віхуры шматлікіх войн і цяжкія гады культу, на тое, што работнікі ўстаноў культуры 50 год былі арыентаваны на прафесійную творчую дзейнасць і сцэнічную эстэтыку і не змаглі глыбока спасцігнуць этнічную культуру, каб стаць сапраўднымі яе носьбітамі і прапагандыстамі.

І калі за подпісам загадчыка аддзела культуры райвыканкома або дырэктара РДК даецца матэрыял, у якім да фальклору залічаны гурткі аэробікі ці калектывы, рэпертуар якіх складаецца з украінскіх, рускіх песень, то відавочна, што такі кірунак даканае апошнія парасткі творчасці. Галоўнае, далі б яму «разгарнуць свае сілы», «папрацаваць» на ніве культуры некалькі гадоў! Так што няма чаго нам цешыцца, гледзячы на статыстычную лічбу, якая канстатуе кольхасны лік фальклорных калектываў (больш за тысячу), бо зразумела, што некампетэнтныя кіраўнікі могуць «настругаць» такіх фальклорных калектываў не адну тысячу.

Органы культуры ў часы застою не займаліся развіццём сапраўднай культурнай спадчыны, назапашанай многімі стагоддзямі. Яны практыкавалі дуты этнашоу, нават на адказныя канцэрты выстаўляліся праграмы, вельмі далёкія ад сапраўднага народнага мастацтва. Выканаўцы танцаў, песняў асляплялі сваёй віртуознасцю, але ім не хапала натуральнасці, сапраўднасці, усяго таго, чым так хвалюе, падкупляе і вучонага, і простага гледача традыцыйнае народнае мастацтва.

Падобнымі меркаваннямі этнашоу кіраваліся і тады, калі вырашылі паслаць на міжнародны фестываль ансамбль «Лідчанка». Фалькларысты АН БССР і БДУ імя У. І. Леніна, даведаўшыся, запратэставалі. Была створана спецыяльная камісія, яна паглядзела праграму, раскрытыкавала яе за стылізацыю пад фальклор. Але калектыў усё ж паехаў на фестываль. У выніку «Лідчанка» за пяць дзён фестывалю ўдзельнічала ўсяго ў трох канцэртах. «Чаму нам не даюць выступаць, чаго мы сюды ехалі?» — недаўмявалі самадзейныя артысты. Адказ жа вельмі просты: калектыў не выклікаў да сябе ўвагі з боку

**Ён зведаў жахі польскіх і фашысцкіх турмаў, прайшоў праз сталінскія лагеры. Паміраў неаднойчы, але, насуперак усім смерцям, выжыў. Паэт, чалавек, грамадзянін... Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн...**

# «Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне...»



Паволі круціцца пласцінка, і ўзнёслы голас спевака вяртае Сяргея Міхайлавіча роўна на шэсцьдзесят гадоў назад. Абуджаюцца думкі — і радасныя, і трывожныя адначасова. Песня дае магчымасць зноў адчуць сябе юнаком, у якога ўся жыццёвая дарога яшчэ наперадзе:

Дні прыходзяць, дні адыходзяць, дні лятуць,
Быццам хвалі рэк бурлівых ўдаль бягуць.
Трэці год ўжо на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.

Спявае Данчык. Сяргею Міхайлавічу на момант здаецца, што спявае сам ён — такі ж малады, прыгожы, акрылены марамі і найлепшымі спадзяваннямі, хоць стомлены душой, спакутаваны сэрцам. Трэці год не бачыць ён родных Лявонавічаў, трэці год адбывае высылку ў польскім Памор'і. Надвячоркам выходзіць з дому, моўчкі ўзіраецца ў зорнае неба, адчуваючы халоднае, але вабнае святло зорак, якія тут, у растанні, здаюцца і чужымі, і роднымі. І паціху, каб ніхто не пачуў і не палічыў дзіваком, напявае:

Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не прыцягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш думак нават ні з кім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.

Да Лявонавічаў адсюль не адна сотня вёрст, там, на Нясвіжчыне, сябры і аднадумцы, яны таксама бачаць святло гэтых зорак.

У ночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць.
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне,
У маёй роднай ды далёкай старане...

Там, у растанні, і нарадзілася гэтая песня. Тады, у дваццаць дзевятым, Сяргей па завядзёнцы прагульваўся са сваімі новымі сябрамі, якіх напаткаў у Памор'і. Шпацыравалі звычайна ўтрох: скрыпач-паляк Фелікс Балінскі і ўкраінская піяністка Галя Парадкіўна. Сяргей Новік ужо заўважаў, што сябры яго пакахаліся, таму не надта ім назаляў: маўляў, я дахаты, ліст у Лявонавічы трэба напісаць...

— А можа, і вершы? — гарэзліва запыталася Галя. Яна ўжо ведала, што яго творы пад псеўдонімам «Малады Дзядок» друкаваліся ў часопісе «Заранка», у іншых выданнях Заходняй Беларусі. Ведала і тое, што пісаць Сяргей пачаў яшчэ пад час вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, што, у дадатак, ён няблага малюе — браў урокі ў мастака Міхала Літвіненкі, іграе на скрыпцы, чаму навучыў яго Тадэвуш Тандроўскі. Наогул жа музычную адукацыю Сяргей атрымаў у прафесара Кацярыны Плішка-Банасевіч.

— Дык вершы, нябось, будзеш пісаць? — зноў запыталася Галя.

— Можа, і вершы, — адказаў няўпэўнена, хоць паэзія паступова станавілася прызваннем.

Развітаўшыся з Галяй і Феліксам, пакрочыў дахаты. А ноч зорная-зорная. Нябачна нехта дужы і ўладарны там сыпануў шчодрых прыгаршчы зорак, рассеяў іх па небе, каб кожнаму можна было любавацца імі, дзе б ён ні жыў. Любавацца і марыць...

Мелодыя нарадзілася адразу, а крыху пазней напісаўся і верш. Пад назвай «На выгнанні» ён быў надрукаваны ў газеце «Беларуская крыніца», аднак у гісторыю ўвайшоў усё ж як «Зорачкі». Заспявалі іх спачатку ў Лявонавічах, а потым і па ўсёй Заходняй Беларусі. «Зорачкі» былі перакладзены на рускую, украінскую і польскую мовы. Сваёй стала песня пазней і для вязняў фашысцкіх канцлагераў. Рыгор Раманавіч Шырма палічыў «Зорачкі» песняй паланянак з Германіі і апублікаваў яе, як народную, пасля вайны ў часопісе «Беларусь».

...Спявае Данчык. Вільгатнеюць вочы ў Сяргея Міхайлавіча, крыху самотна становіцца і мне, бо нямала ведаю ўжо пра адысею С. Новіка-Пяюна. Разам з Сяргеем Міхайлавічам «ступаю» на сцежкі, прасёлкі, дарогі, этапы, брыду каляінамі, якімі давялося яму ісці ў розныя гады. І заўсёды разам з ім была вера ў тое, што абавязкова наступіць светлы дзень. Яго дзень:

З новай верай, з новай сілай зажывём,
Беларускі гімн свой родны запяём.
Гэты гімн, як гром, памчыцца ў аблакі —
Ўсе пазнаюць, што ўжо вольны бедакі.

Прагучалі «Зорачкі», а сустрэча з песняй С. Новіка-Пяюна працягваецца. Ён жа аўтар ажно 75 мелодый, сярод якіх і мелодыя міжнароднага гімна, гімна эсперантыстаў. Ды толькі найбольш блізкія яму песні, напісаныя на роднай мове. Сяргей Міхайлавіч напявае мне «Слонімскі вальс», раманс «Белы снег»... Проста не верыцца, што хутка ўжо тры гады, як разменяў паэт дзевяты дзесятак. Відаць, любоў да песні, матчынага слова дапамаглі яму захаваць бадзёрасць, маладосць душы, нягледзячы на ўсе выпрабаванні.

— Я пад музыку нарадзіўся, — смяецца Сяргей Міхайлавіч, — якраз у храме званы званілі...

Пра гэта гаворыць і зямляк С. Новіка-Пяюна А. Лойка: «Ён нарадзіўся здольны маляваць, кампанаваць музыку, складаць словы ў вершы і песні, прагны слова песеннага, слова роднага...» Не без дапамогі Алега Антонавіча, з яго прадмоўкай «Песня клікала ў свет» у 1984 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніжка выбраных твораў паэта — паэма, вершы, песні, творы для дзяцей. Крыху пазней у «Юнацтве» пабачыў свет зборнік вершаў «Зорачкі». У былой жа Заходняй Беларусі Малады Дзядок выдаў п'есы «Ёлка для Дзеда Мароза», «Цудоўная ноч», «Пакой у наймы», «Прадка пад крыжам»...

Аднак перадусім была песня. Хораша спявалі яго маці, бацька, сёстры. Маці, акрамя таго, няблага вышывала і вязала. У Нясвіжскай семінарыі запісаўся маляваннем, адну з карцін абмяняў на балалайку. А там, дзе музыка, там і песні. Пасля вучобы, у 1926 годзе, вярнуўся ў Лявонавічы. Вырашыў стварыць тут хор. Знайшліся жадаючыя спяваць і ў Лявонавічах, і ў Лазавічах, і ў Габрунах, і ў Смалявічах...

Пасля хору быў створаны драматычны гурток, з'явілася бібліятэка. Спачатку збіраліся ў бацькоўскай хаце, потым у так званым «магазыне» — памяшканні, дзе ссыпалі збожжа. Цеснавата было, таму вырашылі пабудаваць Народны дом. Ініцыятарам быў ён, Сяргей. Каб сабраць якую-небудзь капейчыну, пайшоў па навакольных вёсках. Людзі, хоць і бедна жылі, на добрую справу ахвяравалі ахвотна.

Неўзабаве паўстала хаціна. Улады забаранілі называць яе Народным домам, стала яна проста «Святліцай». Ды хіба ў назве справа? Галоўнае, што ў буржуазнай Польшчы ўзнік яшчэ адзін асяродак беларускай нацыянальнай культуры.

А Сяргей глядзеў далей. Разумеў: дзеці павінны вучыцца па-беларуску. Пачаў распаўсюджваць адозвы Таварыства беларускіх школ для народа, заклікаючы шанаваць і любіць роднае слова.

Па-свойму зрэагавалі на гэта тыя, хто не лічыў беларусаў за людзей. Данос на С. Новіка-Пяюна не дазволіў сябе чакаць: «Існавала ў Лявонавічах публічная пачатковая школа, а калі ж навучанне вялося панам Новікам Сяргеем, дык яно мела тайны характар». Камендант адразу прымяніў уладу — высылка на пяць гадоў. Так апынуўся С. Новік-Пяюн у Памор'і, у горадзе Свеце над Віслай, дзе і напісаў свае вядомыя «Зорачкі».

Высылка доўжылася ажно да сярэдзіны 1931 года. Штосьці пісаў, нешта маляваў, у вольныя хвіліны любіў паспяваць. І чакаў, чакаў, калі ж нарэшце зможа вярнуцца ў Лявонавічы да сваіх аднадумцаў, каб прадоўжыць працу на ніве нацыянальнай культуры.

Ды пасля вызвалення апынуўся ў Слоніме, бо забаронена было жыць бліжэй ста кіламетраў ад тагачаснай польскай заходняй граніцы. Слонім жа якраз ляжаў на 105-ым кіламетры ад мяжы. Тут таксама было нямала тых, хто не хацеў сядзець, склаўшы рукі, яны сталі для Сяргея аднадумцамі. А тут яшчэ адна сустрэча, якая — без перабольшання — надала яшчэ большай упэўненасці, што падзвіжніцкая, адраджэнцкая праца не прападзе марна, прынясе неўзабаве карысць. Гэта была сустрэча з Гальяшам Леўчыкам. Ён сам прыйшоў на былую Агародную вуліцу, на самым ускраі горада, дзе пасяліўся выгнаннік.

Як успамінае С. Новік-Пяюн, згадваў «дзядзька Гальяш пра Янку Купалу і Якуба Коласа, з якімі супрацоўнічаў у газеце «Наша Ніва», а пасля запытаўся: «А ці ведаеш, Сяргей, што ў Слоніме жыве Ядвісь — тая Ядвісь, аб якой піша Якуб Колас «У палескай глушы»? Прозвішча яе Бараноўская, а жыве яна ў доме на ўзгорку насупраць Ражанскага магільніка». У «Нашай Ніве» яна друкавала свае вершы, падпісваючы псеўданімам «Юстына». Была неўзабаве і сустрэча з самой Ядвісяй, якая пакінула прыемнае ўражанне. Далейшыя дарогі Бараноўскай загубіліся. Калі вясной 1961 года С. Новік-Пяюн быў у Слоніме, даведаўся: Ядвісь разам з дочкамі яшчэ ў 1945 годзе выехала ў Польшчу...

Верасень 1939 года паэт сустрэў у Баранавіцкай турме. Ледзь было не загінуў ад налётаў нямецкай авіяцыі. Бомбы двойчы прысыпалі зямлёй С. Новіка-Пяюна і яго сяброў. Выбраўся, а потым і ўцёк у лес. На чырвонаармейскай машыне прыехаў у Слонім. Працаваў інспектарам павятовага аддзела народнай асветы па культасветустановах. Арганізацыя бібліятэк, хатаў-чытальняў, чырвоных куткоў — тагачасная яго работа. Вызваленне вітаў новымі вершамі.

Быццам нанава нарадзіўся на свет, калі сустрэўся ў Слоніме з Янкам Купалам, паэзію якога, як і творчасць Якуба Коласа, любіў з маленства. Іван Дамінікавіч папрасіў, каб С. Новік-Пяюн падпісаў яму сваю фатаграфію. Ці трэба гаварыць, як узрадаваўся Малады Дзядок, хуценька напісаў на здымку: «Дарагому, любімаму народнаму паэту Беларусі Янку Купалу на шчыры ўспамін — удзячны Сяргей Новік (Сяргей Пяюн). Слонім, 14.X.1939 г.». У адказ Купала занатаваў у блакноце радаснага Сяргея: «Міламу Сяргею Пеюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.X. 1939 г.»

Давялося працаваць С. Новіку-Пяюну і ў Слонімскім гісторыка-краязнаўчым музеі, створаным вядомым археолагам, гісторыкам і краязнаўцам Восіпам Стаброўскім. Дзякуючы Сяргею Міхайлавічу трапіў туды і архіў Гальяша Леўчыка. Самым каштоўным у ім быў ліст Янкі Купалы на бланку Беларускага выдавецкага таварыства ад 7 лютага 1914 года. Пазней С. Новік-Пяюн перадаў яго ў Літаратурны музей Янкі Купалы.

Здавалася б, толькі жыві і працуй, але наперадзе былі новыя выпрабаванні. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Сяргей Міхайлавіч рабіў усё магчымае, каб захаваць унікальныя экспанаты музея, найбольш каштоўныя кнігі з бібліятэкі. Рупіўся разам са Стаброўскім... Звязаўся з партызанамі, распаўсюджваў лістоўкі, дапамагаў народным мсціўцам медыкаментамі...

Данос здрадніка спрацаваў і на гэты раз: апынуўся ў гестапа. На другі дзень пасля арышту, 27 лістапада 1943 года, быў вынесены смяротны прысуд. Гэты дзень ён не забудзе, колькі жыць будзе. Даведаўшыся, што яго і яшчэ шэсць вязняў вядуць з турмы на так званыя Петралевічы, зразумеў, што гэта канец, ратунку няма: на гэтай гары расстрэльвалі арыштаваных. Яго і сяброў таксама расстрэльвалі. Не раз, не два, не тры... Ажно сем разоў вадзілі туды, стралялі, зноў вялі ў турму і зноў на расстрэл. Не маглі паверыць вязні, што засталіся жыць. Неяк раніцай Сяргей Міхайлавіч хацеў было па звычцы прыгладзіць непаслухмяныя валасы і ў здзіўленні затрымаў руку, адчуўшы, што яны... выпадаюць пасмамі...

У студзені сорак чацвёртага яму, можна сказаць, пашанцавала. Апрытомнеў у турэмнай бальніцы. Урач паставіў дыягназ: сыпны тыф. Сярод медыцынскага персаналу знайшліся сумленныя людзі. Не толькі на ногі Сяргея паставілі, але і зрабілі ўсё магчымае і нават зусім немагчымае, каб пратрымаць у бальніцы яго ажно паўгода.

Як толькі мог, даглядаў хворага ўрач Станіслаў Камарніцкі. Сынам замест загінуўшага ўласнага стаў для медыцынскай сястры Іны Свянткоўскай. Як за дзіцем, глядзела за ім і сястрычка Аня. Шкада, што з-за даўнасці часу запамятаваў яе прозвішча.

Пасля бальніцы ў турме прабыў нядоўга: накіроўвалі ў Калдычэўскі канцлагер. Зноў — катаванні, голад, знясільваючая праца на торфараспрацоўках. Як мухі, гінулі людзі. Там, у Калдычэве, загінула і жонка Сяргея Міхайлавіча. Але менавіта ў Калдычэве, дзе і чалавеку цяжка было выжыць, як ні дзіўна, жыла і паэзія.

Аднойчы С. Новік-Пяюн быў прыемна здзіўлены, калі з вуснаў юнага вязня, маладога партызанскага разведчыка пачуў: «Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне ў маёй роднай ды далёкай старане?» Не стрымаўся: «Міша, адкуль ты ведаеш «Зорачкі»? «У «Заранцы» да вайны чытаў, — пачулася ў адказ. — Вельмі верш спадабаўся...» — «Аўтара хоць ведаеш?» — пацікавіўся Сяргей Міхайлавіч. — «А няўжо ж... Цікавае прозвішча — Малады Дзядок». — «Дык гэта ж я — Малады Дзядок», — скупая мужчынская сляза скацілася па шчацэ.

У Калдычэве нарадзіліся і яго новыя творы, пра якія знаўца заходнебеларускай паэзіі Уладзімір Калеснік трапна сказаў, што яны «не маюць у беларускай паэзіі прэцэдэнту і ўжо гэтым цікавыя». Безумоўна, у гэтым даволі ладным спісе найбольш значны верш «Ноч у камеры», напісаны з тым болем, які нават словамі цяжка выказаць:

Месяц чоўнам прыплыў серабрыстым,
Каб з астрога мяне ратаваць,
Паціхутку сярпом залацістым
Мае краты пачаў пілаваць.

Марна мучышся друг мой каханы!
Не ўцяку я адгэтуль нідзе.
Сам ратуйся, бо стражнік ля брамы
Зглядзеў, крыкнуў: «Стой! Хто ідзе?!»
Месяц знік, не відно яго болей.
Штось шапочуць зноў зоркі з нябёс.
Ды праз шыбы разбітыя з волі
Мне вітанне пахучы шле бэз.

Верш «Ноч у камеры» ведалі ў Калдычэве многія зняволеныя, хоць далёка не ўсе здагадваліся, што яго аўтар.

гэтаксама як і яны, пакутуе за кратамі.

Аднаго дня пастроілі іх у калону, пагналі ў бок Слоніма. Ішлі не людзі, а здані валакліся. С. Новік-Пяюн таксама быў гэтак знясілены, што ў думках ужо развітваўся з жыццём, гадаючы, якая яго вярста будзе апошняй. Відаць, усё ж гэтая. Ля могілак скамандавалі спыніцца, загадалі класціся між магіл. Звычайна ў такіх выпадках раздаюцца аўтаматныя чэргі і... Не, зноў скамандавалі, на гэты раз падымацца, зноў строіцца. Накіравалі калону ў бок Зэльвы.

Сяргей Міхайлавіч ужо сам не мог ісці, яго падтрымлівалі пад рукі сябры. Нешта гаварылі, спрабавалі супакойваць... І тут, як гром сярод яснага неба: «Партызаны!» Застрачылі кулямёты і аўтаматы, зняволеныя сыпанулі ў розныя бакі, ведаючы, што толькі тут, сярод кустоў адзін паратунак. Паспрабаваў бегчы і ён, але адчуў востры боль, які, здаецца, крануўся саміх мазгоў...

Лёс і на гэты раз злітаваўся. Уцалеў, выжыў Сяргей Міхайлавіч. Знямоганы, знясілены паклыпаў у Слонім, дзе жыла маці, засталіся сябры. А яшчэ яму карцела як мага хутчэй даведацца, ці захаваліся тыя 16 тысяч тамоў з гарадской бібліятэкі, якія выратаваў ён у пачатку акупацыі. Кнігі былі на месцы, вярнуў іх у бібліятэку, уладкаваўся на працу. Гэтаксама, як і да вайны, апантана заняўся краязнаўствам, сядытады маляваў, пісаў вершы. Так хацелася верыць, што ўсе бядоты мінуліся, нарэшце, можна займацца любімай справай.

Ды ліха не адпускала яго. Знайшоўся чалавек, які палічыў, што С. Новік-Пяюн не можа быць на волі, напісаў на яго данос у адпаведныя органы. Ды не знайшоўся, а — той, ранейшы злыдзень, які прадаў яго і фашыстам. Дарэчы, ёсць у С. Новіка-Пяюна і цяпер зласліўцы, што пішуць лісты ў розныя інстанцыі, абвінавачваюць у нейкіх грахах у вайну. Паклёпнічаюць, не сунімаюцца.

Органы не марудзілі. Ваенны трыбунал — і прысуд: дзесяць гадоў зняволення. Трапіў С. Новік-Пяюн на Калыму, працаваў на лесапавале, рудніках. Надараліся хвіліны, калі думаў — не вытрывае. «За што?», — гэтая думка не давала спакою ні днём, ні ноччу. «За што?» — хацелася крычаць на ўвесь голас. Спачатку судзілі белапалякі, потым фашысты, цяпер — свае...

«Свае»? Але ж поруч дзесяткі, сотні гэткіх самых, як і ён, абылганых, душэўна скалечаных. Няўжо ўсе яны вінаваты перад Савецкай уладай, нават тыя, хто ў гады Вялікай Айчыннай вайны мужна змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ворагі? Не хацелася верыць. Аддушынай стала складанне вершаў. Не напісанне, а менавіта складанне. Навучыўся ў думках занатоўваць паэтычныя радкі, а памяць у яго і раней была ўчэпістая, так што нішто не забывалася.

Нарэшце, прыйшоў дзень, калі зняволенне заканчвалася. Ды толькі марнымі былі спадзяванні на вызваленне. Зняволенне мянялася на высылку. Вярнуўся ў барак, слёзы вочы засцілі, не стрымаўся, заспяваў:

Дні праходзяць, дні
адыходзяць, дні лятуць.
Быццам хвалі рэк бурлівых
ўдаль бягуць...

А жыць трэба было, і ён жыў. Яшчэ больш захапіўся эсперанта, арганізаваў ва Усць-Нерскай сярэдняй школе Якуцкай АССР гурток. У Сяргея Міхайлавіча па сённяшні дзень захоўваецца нумар аймяконскай газеты «Северная заря» ад 28 верасня 1958 года, у якім паведамляецца і пра гэты гурток, і пра тое, што якуцкія хлопчыкі і дзяўчынкі перапісваюцца са сваімі замежнымі сябрамі. Ухвальнае слова сказана і пра яго, С. Новіка-Пяюна.

Сябры ў Беларусі рабілі ўсё магчымае, каб вызваліць Сяргея Міхайлавіча, але доўгі час іх намаганні былі марнымі. Нарэшце ў лёсе С. Пяюна наступіў пералом.

**Аб гэтым найлепш могуць сказаць самі дакументы. Адзін з іх такі: (цытую ў перакладзе з рускай мовы):**

**«Даведка выдадзена грамадзяніну Новік Сяргею Міхайлавічу 1906 года нараджэння, ураджэнцу вёскі Лявонавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, па нацыянальнасці беларус, у тым, што ён на падставе Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 17 верасня 1955 года аб амністыі савецкіх грамадзян, якія супрацоўнічалі з акупантамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў, МУС Якуцкай АССР 10 сакавіка 1956 года ад ссылкі да пасялення вызвалены са зняццем судзімасці.**

**Гэтая спраўка выдана для прад'яўлення органам міліцыі для абмену на пашпарт.**

**Начальнік аддзела МУС Якуцкай АССР...»**

**І другі, у якім ёсць і такія словы:**

**«...Прыгавор ад 24 сакавіка 1945 года ў адносінах да Новіка Сяргея Міхайлавіча адменены і справа спынена за недаказанасцю абвінавачання.**

**Старшыня ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі...»**

Пасля вызвалення як на крылах імчаўся ў родны Слонім. Маці не дачакалася сына, памерла. Сястра сказала: «Пажыві ў мяне, а там паглядзім...» Жыў ажно пяць гадоў. Урэшце, не стрываў, напісаў самому Сяргею Восіпавічу Прытыцкаму. Адказ прыйшоў на чацвёрты дзень, а ў ім паведамленне, што выдзяляюць аднапакаёўку ў самім Мінску. З 1964 года і жыве С. Новік-Пяюн у той «хрушчоўцы» па вуліцы Пятра Купрыянава.

Калі заходзіш сюды ўпершыню, адчуванне такое, што заходзіш у музей. У С. Новіка-Пяюна сабрана нямала кніг, альбомаў, іншых экспанатаў, якія расказваюць пра жыццё працоўных у былой Заходняй Беларусі, іх рэвалюцыйную барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. На сценах карціны, напісаныя самім гаспадаром: бацькоўская хата ў Лявонавічах, мілыя краявіды Нясвіжчыны. За імі паўстае душа іх аўтара, чалавека, змалку ўлюбёнага ў прыгожае.

Завітала да С. Новіка-Пяюна чародка хлопчыкаў і дзяўчынак разам з настаўніцай — 3«Д» клас з СШ № 60 Мінска. Дзеці частыя госці ў яго, і Сяргей Міхайлавіч кожны раз расказвае ім штосьці цікавае. І пра сваё жыццё-быццё, і пра тое, як праз гады пранёс любоў да беларускай мовы і літаратуры...

Пра месца твораў С. Новіка-Пяюна ў літаратуры добра сказаў А. Лойка: «Частка з іх — па стылю — у сваім часе: яны гучаць так, як гучала большасць твораў масавай паэзіі перыяду грамадаўскага руху, частка — 40-х, перадваенных гадоў — у духу тагачасных святочна-настраёвых вершаў. Ды яны — з этапаў жыцця чалавечага: з жыцця іх не выкінуць, і з песні гэтага жыцця таксама».

А што ўжо казаць пра «Зорачкі»?! Дарэчы, адна эмігрантка са Злучаных Штатаў Амерыкі прызналася ў лісце С. Новіку-Пяюну: «Песню Вашу спяваем, як свайго роду малітву». А. Мальдзіс прывёз з-за мяжы такі факт: «Трапіўшы ў Нямеччыну, беларусы на вакзале заспявалі «Зорачкі»... Старая немка, якая была на вакзале, заплакала, расчулілася. Маўляў, такая цудоўная песня, і запыталася, а хто яе аўтар». Тады ў адказ прагучала: «Загінуў!»

...На развітанне яшчэ раз слухаем разам з Сяргеем Міхайлавічам яго «Зорачкі»...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*Старонкі ўспамінаў*

# Ля вытокаў «Нёмана»

Якога маштабу ні быў бы пісьменнік, ягоны лёс заўсёды мае штосьці адметнае. Нечым ён і павучальны. І ў большай або меншай ступені характарызуе пэўную літаратурную, як цяпер кажуць, генерацыю. Пра гэта падумалася мне, калі я, з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння Мікалая Гарулёва, адчуў неабходнасць прыгадаць гэтага шчырага і добразычлівага чалавека, сумесна з якім папрацаваў не адзін год.

Як і многія з маладых людзей, што ўступалі ў вайну дваццацігадовымі, Мікалай, скінуўшы афіцэрскі кіцель, як бы «вяртаўся» да таго, аб чым марыў і да чаго імкнуўся да чорнага 22 чэрвеня сорак першага года, калі ўсё абарвалася ў нас і лёс павёў па франтавых дарогах. Я бяру слова «вяртаўся» ў двукоссе, бо за чатыры гады, якія забрала ў нас вайна і вайсковая служба, мы істотна змяніліся ў сваіх уяўленнях пра жыццё. Пасталелі. Па-новаму глядзелі на свет.

Прынамсі, помню, як спраўна і дасведчана вёў ён справы ў альманаху «Отечество», што выходзіў як друкаваны орган рускай секцыі СП БССР, і пераводзіў яго на рэйкі часопіснага выдання (пад назвай «Советская Отчизна»). Першым галоўным рэдактарам быў Іван Шамякін, які адразу ж вызначыў ролю М. Гарулёва — адказнага сакратара рэдакцыі, — як начальніка штаба. І начштаба сядзеў разам з планавікамі, бухгалтарамі выдавецтва і друкарамі, выкройваючы з фондаў паперу і грошы для сістэматычнага выдання спачатку вельмі ж кволага часопіса. З малым тыражом. З нерэгулярным выхадам. Наш галоўны тады працаваў над раманам. Я займаўся пераважна крытычнай працай як тэатральны рэцэнзент. А Мікалай дбайна рыхтаваў нумар за нумарам.

Што было самым важным для яго? Гарулёў са сваёй сонечнай усмешкай дабрадушна, але зусім сур'ёзна гаварыў: «Нам трэба давесці, што ў рэспубліцы ёсць дастаткова таленавітыя і працавітыя сілы, каб выдаваць часопіс на рускай мове...» І ён даводзіў. Прыцягваў да перакладчыцкай дзейнасці маладых літаратараў (з іх ліку, напрыклад, сфарміраваліся такія, як Н. Кіслік у галіне паэзіі і У. Жыжэнка — у прозе). Падхопліваў і падтрымліваў рукапісы нікому тады невядомых пачаткоўцаў (наўрад ці забудуць свае дэбюты ў «Отчизне» І. Клімашэўская або С. Курылёва). Заахвочваў паэтычныя творчыя пошукі Б. Спрынчана, П. Валкадаева, Д. Сімановіча... На чытацкіх канферэнцыях, якія ён жа сам у садружнасці з гарадскімі бібліятэкамі і «Саюздрукам» наладжваў у Магілёве і Маладзечне, у Гомелі і Гродне, прадстаўляў патэнцыяльным падпісчыкам на часопіс празаікаў М. Кругавых і Ю. Багушэвіча, паэтаў В. Тараса, Ф. Яфімава і І. Шклярэўскага. Вельмі ганарыўся Р. Бярозкіным — самым аналітычным і самым натхнёным літаратурным крытыкам, які ўзначальваў у часопісе аддзел. Усё гэта рабілася з адным клопатам — зрабіць часопіс папулярным.

І па змесце, і па паліграфічным афармленні ён набываў аблічча сапраўды літаратурнага перыядычнага выдання, вартага ўвагі і ўсесаюзнага чытача. З яго старонак упершыню на рускай мове прагучалі некаторыя творы В. Быкава, Я. Брыля, А. Куляшова, І. Мележа, І. Шамякіна. Калі на вокладцы часопіса з'явілася назва «Нёман», якую прапанаваў і горача адстойваў, дарэчы, адзін з яго рэдактараў М. Калачынскі, у яго ўжо было сваё кола сталых чытачоў у рэспубліцы і за яе межамі.

Сам Мікалай Гарулёў выступаў з вершамі і паэмамі, пісаў мастацкую прозу з адкрыта аўтабіяграфічнымі матывамі, стварыў пяць п'ес, якія былі пастаўлены ў Рускім тэатры БССР імя М. Горкага і ў Магілёўскім абласным. У яго выходзілі кнігі, і ён радаваўся кожнай з іх, бо кожная выяўляла штосьці з перажытага ім у гады вайны і міру, з абдуманага і ўзважанага сэрцам чалавека, які не можа забыць тыя чатыры ваенныя гады. Вось пра іх Мікалай і гаварыў у прыватных гутарках з вялікай усхваляванасцю, калі заходзіла гаворка ў нас пра літаратурны лёс нашага пакалення. Што ні мяркуй, а тыя чатыры гады адабраны ў чалавека. Але для творчай натуры яны безумоўна далі мноства так званых «тэм» і «сюжэтаў». Ды здолелі адабраць час, неабходны для натуральнага перыяду станаўлення літаратурных здольнасцей, для этапу «вучнёўства». Таму заслугоўваюць найвялікшай пашаны тыя з нас, хто здолеў засесці за парты і пайсці ў студэнцкія аўдыторыі, каб нагнаць згубленае пад час вайны. У некаторых жа літаратараў з'явілася нецярплівае жаданне як мага хутчэй расказаць свету пра тое, чым ён жыў і як ацалеў у віхурах ваеннага ліхалецця. Ці не адсюль і пэўная раскіданасць творчых інтарэсаў: толькі закончыш паэму, як з-пад пяра ўжо выходзіць п'еса, а там і аповесць паўстае ў задуме. Варта было б засяродзіцца, ды прага размовы з чытачом, што стрымлівалася тыя чатыры гады, бярэ верх, і ты ледзь паспяваеш выконваць тое, без чаго сам сабе здаешся не вартым пашаны літаратарам. Памылка, вядома, ды яе можна і зразумець, і дараваць.

Гэта, вядома, толькі тлумачэнне і апраўданне паспешнасці і нават пэўнага дылетантызму ў літаратуры. І Мікола Гарулёў у хвіліны спавядальнай шчырасці гаварыў пра гэта зусім цвяроза. Ён быў патрабавальным чалавекам і не падманваў самога сябе прыгожымі ілюзіямі. Яму былі дарагія тыя старонкі ягоных вершаў і паэм, аповесцяў і драматычных твораў, на якіх застаюцца і, мабыць, застануцца на доўгі час сведчанні таго, што зведаў і што спасціг у суровыя гады ён сам, што ўбачыў на ўласныя вочы. Непасрэднасцю напісанага Мікалай Гарулёў даражыў больш за ўсё. І я помню, як святлейшай рабілася гарулёўская ўсмешка, калі ён на сустрэчах з чытачамі сустракаў працягнутую яму для аўтографа кніжку «Признание» або «Прощайте, любимые...», ці тэатральную праграму з назвай спектакля «Если любишь» або «Моя дочь».

Што ж было галоўнае для яго ў гэтай дзейнасці?

Часопіс «Нёман».

Бывала, ён спасылаўся на вопыт такіх пісьменнікаў, як Мікола Ткачоў або Янка Шарахоўскі. У іх ёсць празаічныя творы, вартыя ўвагі чытача, якія ў свой час не залежваліся на бібліятэчных паліцах. Ім было люба знаходзіць водгук у асяроддзі зацятых кніжнікаў і маладых чытачоў. Але не менш важным для сябе яны лічылі тую пасаду, якую адвяла ім літаратура ў чыста службовым варыянце. Галоўны рэдактар або дырэктар выдавецтва. «Так і я, — з сумнаватай усмешкай прызнаваўся мне Мікалай, — адчуў аднойчы, што закліканы і абавязаны наладзіць выданне часопіса на рускай мове... Ну, і ён ёсць...». Калі я спасылаўся на тое, што кожны новы рэдактар і адказны сакратар такіх выданняў звычайна лічаць, быццам «усё» вартае ўвагі і ўхвалення пачынаецца з іхняга прыходу ў рэдакцыю, мой таварыш усміхаўся зусім весела. «Калі б мне пасля першага майго бою на беразе Друці хто-небудзь наваражыў, што мне наканавана рабіць толькі, як ты кажаш, гэта, адно толькі гэта... я, шчыра кажучы, быў бы ўжо шчаслівы. Шчаслівы ад адной магчымасці перарабіць заняпалы альманах у аўтарытэтны літаратурны часопіс рэспубліканскага маштабу...». А ўдзячнасць? «Ад каго? — спытаў мяне Мікалай. — Ці ж мы самі з табой такія ўжо ўдзячныя да ўсіх, хто нам спрыяе, хто нас рэдагуе, выдае, распаўсюджвае... Такая склалася завядзёнка: адзначыў чаркай кнігу — і годзе...».

Не ведаю, чаму менавіта такім успамінам захацелася мне прыгадаць майго сябра, але потым падумаў, што не кожны з нас умее так сумленна ацэньваць сваё месца і сваё прызначэнне ў літаратуры. А з гэтага таксама складаюцца паводзіны чалавека ў літаратуры.

**Барыс БУР'ЯН.**

# АКВАРЭЛІ З БЕЛАРУСІ

**Па ініцыятыве рыжскага беларускага таварыства «Світанак» у Доме работнікаў мастацтва латвійскай сталіцы наладжана выстаўка акварэляў Вячаслава Паўлаўца, маладога беларускага графіка. Цікавай і карыснай назваў акцыю заслужаны дзеяч культуры Латвійскай ССР Эдуард Шыракс, адкрываючы выстаўку. Ён выказаў самыя шчырыя спадзяванні на далейшыя сустрэчы з беларускім мастацтвам пад дахам дома, дырэктарам якога ён з'яўляецца, а таксама прапанаваў беларусам не абмяжоўвацца выяўленчым мастацтвам. Мастацтвазнаўца Арнолд Саленіекс, вітаючы гасцей і мастака, зазначыў, што стрыманыя, празрыстыя, настраёвыя работы В. Паўлаўца блізкія па духу і манеры выканання да работ лепшых латышскіх майстроў акварэлі. Сапраўднай мастацкай падзеяй назвалі вернісаж латышскія калегі беларускага мастака. Сябры «Світанку», як паведаміў старшыня таварыства Сяргей Кузняцоў, на закрыццё выстаўкі маюць намер наладзіць беларускую вечарыну.**

**НАШ КАР.**

# ЯК СТАЦЬ ТЭЛЕЗОРКАЙ

**«Зоркі» тэлевізійнага небасхілу—хто яны?**

ЯШЧЭ летась гледачы спрачаліся, якому з трох хлопцаў, што вядуць праграму «Взгляд», аддаць перавагу, хто з іх сапраўдная «зорка»; потым загаварылі пра эстонскага дыктара Урмаса Ота, які прыцягнуў увагу да перадачы «Тэлевізійнае знаёмства». А сёлета самае папулярнае тэлевізійнае імя — Аляксандр Няўзораў, альбо проста Саша, як называюць яго ўсе ленінградцы.

У кастрычніку прозвішча ленінградскага тэлежурналіста называлі тры цэнтральныя газеты, у яго бралі інтэрв'ю вядучыя «Взгляда», а ў самім Ленінградзе ён не проста папулярны, а знакаміты. Раніцай у метро можна пачуць: «Ну, як Саша ўчора ўрэзаў паразітам?». «Няма на вас Сашы», — скажа ленінградзец, сутыкнуўшыся з хцівасцю прадаўца. А шафёр экскурсійнага аўтобуса, праязджаючы па Неўскім праспекце, абавязкова заўважыць: «Вось з гэтага будынка вядзе свае «600 секунд» Саша Няўзораў». І сапраўды, адзін раз паглядзеўшы праграму, якую вядзе Няўзораў, стараешся ні ў якім разе не прапусціць наступныя.

У чым сакрэт альбо (скарыстаем моднае слоўца) феномен гэткай папулярнасці? У высокім прафесіяналізме журналіста? У асабістай абаяльнасці? Так, усё гэта ёсць, але не толькі за гэта любяць ленінградцы Сашу. Адзін стары пенсіянер, расказваючы ў ленінградскай газеце «Смена» пра свой гаротны лёс (памерла жонка, збілася з тропу дачка, жыве на мізэрную пенсію ўдваіх з унучкай), закончыў так: застаецца спадзявацца, што нешта ўсё ж зменіцца, на перабудову. І калі бачу па тэлевізары Сашу Няўзорава, упэўнены: НАШЫ ПЕРАМОГУЦЬ.

Тое, што Саша за «нашых», ён даводзіць штовечар: выступае ў абарону пакрыўджаных, няшчасных, падманутых, ваюе з рознымі злачынцамі і бандытамі. Характэрная дэталь: на месцы надзвычайнага здарэння ён амаль заўсёды з'яўляецца раней за міліцыю. З зайздроснай настойлівасцю выкрывае махінатараў розных рангаў, хлусаў, марнатраўцаў. Напрыклад, у кастрычніку на тэлеэкранах ленінградцаў цэлы тыдзень працягваўся паядынак Няўзорава з гарадскім мясакамбінатам: у некалькіх рэпартажах журналіст выкрыў страшэнную антысанітарыю і злачынныя «парадкі», якія пануюць на гэтым прадпрыемстве. Рэакцыя кіраўнікоў камбіната была імгненнай: ні ў якім разе не дапускаць тэлебачанне, наогул журналістаў, на тэрыторыю прадпрыемства. Аднак чарговы рэпартаж Няўзорава менавіта з гэтай тэрыторыі неўзабаве выйшаў у эфір — на гэты раз пра жудасны бруд у адстойніках. А пранік Саша на забаронены для яго аб'ект у машыне «хуткай дапамогі»!

Настырны хлопец гэты Саша! Ён лезе ў падвалы і на гарышчы, з'яўляецца ў кпз, у прытонах, усюды, дзе, як тараканы, валтузіцца рознае «отребье» вялікага горада. А горад паўсюдна стварае групы падтрымкі Аляксандра Няўзорава.

*Яго называюць санітарам грамадства.* Сам жа Саша сваю пазіцыю вызначае проста: «Хто, калі не я?»

І ці трэба даказваць, што гэта самае высакароднае крэда журналіста? Бо менавіта яго ўласная, асабістая пазіцыя сёння як ніколі стала вызначальнай характарыстыкай. Як напомніў Станіслаў Гаварухін на старонках «Советской культуры»: «Усе мы павінны вызначыцца...»

Галоўная прычына дзейнасці і адметнасці перадач ленінградскага тэлебачання ў тым, што літаральна ўсе перадачы вядуць самі журналісты, — тыя, хто рыхтуе матэрыял. Таму нават чыста інфармацыйная перадача «Факт» (накшталт нашай «Панарамы») кожны раз мае свой адметны характар — у залежнасці ад чалавечых і журналісцкіх якасцей вядучага. (А як можа змяніць характар перадачы адзін толькі вядучы, мы маглі заўважыць, калі глядзелі новую нядзельную праграму ЦТ «Сем дзён»).

Чаму цікавыя нават чыста інфармацыйныя перадачы ЛТ, чаму запамінаюцца? Таму, што тэкст не заштампаваны, сюжэты лаканічныя, выступленні хвілінныя, а то і секундныя. Вось, напрыклад, ідзе сюжэт, прысвечаны юбілею Эрмітажа. Інтэр'еры, выстаўкі, натоўп наведнікаў *і выступленне* дырэктара Эрмітажа, акадэміка Піятроўскага: «Хачу, каб тыя, што прыйдуць сюды працаваць пасля мяне, любілі Эрмітаж так, як люблю яго я». І ўсё. І ўвесь «сінхрон». Дзве-тры мінуты даецца і запрошаным у студыю.

Міжвольна напрошваецца *параўнанне.* У адной з перадач Беларускага тэлебачання на тэму «Культура і перабудова» выступалі чатыры «генералы» ад культуры. Кожны зрабіў справаздачу мінут на 15—20. А вядучы (відаць, каб быць аб'ектыўным) пералічыў іх тытулы і падвёў вынік... пераказаўшы ўсё, пра што гаварылася. І падзякаваў за «цікавую размову»!.. Думаю, ленінградскія гледачы аб'явілі б пасля такой перадачы забастоўку і больш не ўключылі свае тэлевізары. «Сапсавала» ЛТ сваіх гледачоў! Бо ленінградскія тэлежурналісты абышлі многіх сваіх калег па смеласці, вастрыні матэрыялу, па раскаванасці ў падборы і падачы яго. Для іх няма закрытых тэм, а нязмушанасць — адметная рыса лексікі і кампаноўкі праграм.

Так, у маладзёжнай праграме «Чапыгіна, 6» паказваюць, напрыклад, конкурс на лепшае веданне ленінградскіх мастоў (адказы па *талефоне падлічвае і групуе* камп'ютэр), і тут жа «ўкліньваецца» апытанне гледачоў: «Ваша меркаванне — ці пераможа перабудова?» Пасля кароценькага выступлення сацыёлага на гэту тэму вядучы выходзіць на вуліцу і звяртаецца да групы дзяўчат з прапановай: увайсці ў трамвай і знайсці самы дасціпны спосаб дамагчыся, каб саступіў месца малады чалавек... Прайшоў гэты сюжэт, і нас запрасілі на «Вуліцу Першага Бліна», дзе адкрыўся вернісаж самых розных першых твораў...

Наўмысна расказваю так падрабязна, бо, думаю, нашы тэлегледачы і не ўяўляюць, што можа тэлебачанне. Нават калі ў перадачы ўсяго толькі 600 секунд. Але яны адлюстроўваюць усё жыццё шматмільённага горада. У *полі зроку тэлекамеры* трапляе не толькі вонкавы яго фасад, а і асобная вуліца, вулачка, двор, кватэра. Журналісты не абыдуць самы непрыкметны будынак, калі ў ім некалі хоць аднойчы пабываў знакаміты ці проста цікавы чалавек. Не абмінуць і той, які патрабуе пільнага рамонту...

І вось тут хочацца ўздыхнуць. Па перадачах БТ глядач наўрад ці адчуе, што жыве ў вялікім, амаль двухмільённым горадзе з безліччу розных праблем. Так, у перадачах БТ ёсць заводы, установы, дзе адбываюцца сходы, наладжваюцца сустрэчы з замежнымі гасцямі. Ды інфармацыя пра ўсё гэта часцей за ўсё афіцыйная, безаблічная. Да таго ж ствараецца ўражанне (ды так яно і ёсць!), што журналісты БТ гадамі ходзяць па адных і тых жа сцежках. Заштампаванае кола тэм, заштампаваныя тэксты з экрана. Думаецца, што калі б самі *журналісты* чыталі свае тэксты ў эфіры, а не хаваліся за дыктараў, дык пісалі б іх крыху лепш, каб не асароміцца. А так — штампы. Штампы, народжаныя часам, калі журналісты навучыліся хаваць сваю асабістую думку, свае адносіны да таго, што яны паказваюць. На экране пануе нейкая, я б сказала, «урадавая» пазіцыя. Адсюль і моўныя блокі, лексіка мінулых і пазамінулых гадоў, якая даводзіцца «непахісным» голасам дыктара.

Не толькі інфармацыйныя *праграмы гэткія.* Давайце звернемся хоць бы да праграм, якія пазначаны як мастацка-публіцыстычныя.

Што ў іх мастацкае, а што *публіцыстычнае?*

Праграма «Ліра» 27 кастрычніка складалася з пяці студыйных сустрэч. З кіраўніком фотастудыі «Мінск», з двума «афганцамі», з двума маладымі паэтамі, з перакладчыкам, і ўрыўкам з п'есы Бекета.

Кола праблем, скажам так, даволі звужанае. І па яўнай перавазе «літаратурнай часткі» больш падышло б «Літаратурнай Беларусі». Уласна публіцыстычным выглядаў сюжэт з «афганцамі», аднак ці не занадта часта гэта тэма эксплуатуецца на экране БТ? Адна толькі літаратурна-драматычная рэдакцыя не адзін раз звярталася да яе ў тым жа кастрычніку. Ды, урэшце, справа не ў самой тэме, а ў яе падачы.

Ну, а гаворка з кіраўніком фотастудыі «Мінск» наўрад ці магла зацікавіць шырокую аўдыторыю і зместам, і тым больш — узроўнем. Крыху пра гісторыю фатаграфіі, крыху аб фотатэхніцы, а *найбольш — пра дрэнныя ўмовы*, у якіх знаходзіцца студыя. А вядучая, нібы саромеючыся, толькі пыталася: «Чаму ж вы не пратэстуеце? Дзе ваш пратэст?» Якая ўжо тут публіцыстычнасць, якая мастацкасць!

Урыўка з п'есы Бекета я, прызнаюся, не зразумела. Думаю, што *і многія іншыя* гледачы таксама. Бо на экране адбывалася нешта цьмянае, нешта няпэўнае, ды і «карцінка» была невыразнай. Словам, «Ліра» на гэты раз не прагучала. Шкада. Бо ў свой час яна дасягнула пэўнага ўзроўню, знайшла свайго гледача.

Больш змястоўнай была «Літаратурная Беларусь» (29 кастрычніка). Але толькі дзякуючы пісьменнікам, запрошаным у студыю, а не агульнай задуме аўтараў перадачы. Пазбаўленая стрыжня, акрэсленай канцэпцыі, перадача распадалася на асобныя старонкі, як кепска збрашураваная кніга. Перадачу, дарэчы, псавала і вядучая, што скорагаворкай, нібы спяшаючыся хутчэй знікнуць з экрана, задавала неабавязковыя пытанні, не прэтэндуючы на адметную *журналісцкую пазіцыю,* на свой погляд і думку. Роля звычайнага слухача, які час ад часу падае рэплікі, — ці не замала гэта для вядучага?

А вось хто не збіўся са сваёй хады пасля летніх вакацый, дык гэта «Крок». Ён зрабіўся больш упэўнены, больш шырокі. І адразу было відаць, што глядач яго чакаў, засумаваў па ім. Пра гэта сведчылі шматлікія тэлефонныя званкі ў студыю.

Шмат было цікавага ў адной з апошніх перадач. І скразны сюжэт на тэму «Начны горад», і асобныя, лакальныя сюжэты. Напрыклад, гісторыйка пра бомбасховішча — аб'ект грамадзянскай абароны, за які адказвае нейкі Фокін. Ён, аказваецца, даўно не працуе ў ЖЭСе, на тэрыторыі якога знаходзіцца сховішча, і даўно ні за што не адказвае. Дробязь, але тыповая для нашага жыцця...

Надзённай была гаворка з вучоным, цікавай — з кіраўніком АВІРу, вострай — гаворка пра так званую «мінеральную» ваду, якую прадае адзін з калгасаў («Крок» у другі раз «закаштаваў» гэтай «мінералкі»). *Усё было* пададзена вынаходліва, займальна, на сваім матэрыяле. Таму, на маю думку, неяк выпадаў з «Кроку» сюжэт, пабудаваны на размове з карэспандэнтамі ЦТ Ляшчынскім і Пятровай. Дарэчы, няўжо Афганістан, як той Карфаген, абавязкова павінен прысутнічаць у кожнай перадачы?

Выклікаў пытанні і ўдарны сюжэт праграмы — канфлікт у інтэрнаце. Не па сваёй сутнасці, вядома, а па тым, як *быў пабудаваны.* Падалося недарэчным «судзілішча» ў студыі паміж студэнтамі і адміністрацыяй інстытута. Думаецца, што тэлебачанне ў дадзеным выпадку ўсклала на сябе неўласцівыя яму абавязкі. І неяк дзіўнавата выглядаў вядучы, які заняў позу арбітра, што знаходзіцца па той бок дабра і зла. Тут не аб'ектывісцкія пазіцыі трэба было займаць, а выказаць свае адносіны да таго, што людзі ўбачылі на экране, даць *сваю* маральную і грамадзянскую ацэнку з'яве. Хай прабачыць чытач трывіяльнасць, але, калі б не «спектакль» на экране, не давялося б рэцэнзенту даказваць прапісныя ісціны.

Вось мы і зноў падышлі да ролі вядучага, да ролі журналіста на тэлебачанні. Думаю, што гледачы «Кроку», якіх перадача *не* задаволіла, былі расчараваны ў першую чаргу вядучымі. Не скажу, што на гэты раз дуэт быў слабейшы за папярэднія. Варта аддаць належнае і А. Лукашэвічу, і А. Шлегу. Умеюць слухаць, умеюць скіраваць гаворку ў патрэбнае рэчышча. Што само па сабе нялёгка, асабліва калі працуеш у «жывым эфіры». Аднак усё ж не хапае маладым вядучым сапраўды высокай прафесійнасці, смеласці меркаванняў і думак, нейкай рызыкоўнасці, неардынарнасці. Прафесійнасць, вядома, з цягам часу можа прыйсці, але толькі поруч з адважнай і бескампраміснай у прынцыповых пытаннях пазіцыяй.

Не заўсёды добра валодаюць нашы вядучыя (не толькі з «Кроку») і мовай. Адчуваецца, *што некаторым з іх* цяжкавата размаўляць пабеларуску, таму пакутліва шукаюць слова, марудзяць, перакладаючы, відаць, у галаве з рускай на беларускую. Не заўсёды гэта ўдаецца, і тады з'яўляюцца такія ляпы як «упрэць» замест рускага «впредь», «непрыемлівыя пытанні», «вобразна гавара», «сціпла» замест «сціслa», — вядучы прапанаваў гаварыць «коратка і сціпла». Ці варта ва ўсіх выпадках ужываць толькі беларускую мову, навaт тады, калі сумоўца — рускамоўны? Мо гэта і не зусім этычна? Не трэба рабіць выгляд, што па-руску мы не ўмеем!.. Жаданне прывучаць да мовы гасцей студыі зразумелае, але, як мінімум, родную мову трэба добра ведаць самому. Кепская мова вядучых — ці не нагода папракнуць іх у непрафесійнасці?

...Рана нам яшчэ гаварыць пра свае тэлевізійныя «зоркі». Іх яшчэ няма на нашым тэлевізійным небасхіле. А так не хапае нам свайго Сашы Няўзорава!..

**Рэгіна БАКУНОВІЧ.**

Ленінград—Мінск.

## НА блакітным ЭКРАНЕ

**З 11 ПА 17 СНЕЖНЯ**

13 снежня. 22.00

**У ТЭАТРАХ КРАІНЫ**

Спектакль Бакінскага дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя Самеда Вургуна «Дзень пакарання смерцю» па п'есе Ю. Самедаглу.

Уступнае слова галоўнага рэжысёра тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў Азербайджана — Д. Сялімавай.

15 снежня. 17.05

**СУСТРЭЧА ДЛЯ ВАС**

Наш госць — заслужаная артыстка БССР, мастацкі кіраўнік ансамбля народнай музыкі «Жывіца» Валянціна Пархоменка.

15 снежня. 19.50

**«БУГ»**

Літаратурна - мастацкі часопіс Брэсцкай студыі тэлебачання.

Перадача расказвае пра вясковага скрыпача, музыку - самародка С. П. Хурсіна — 77-гадовага жыхара вёскі Гірск, што на Кобрыншчыне.

16 снежня. 13.00

**«АДНАЎЛЯЮЧЫ ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ»**

Герой перадачы — рэвалюцыянер, вучоны, літаратар — Ігнат Дварчанін, — прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі, які загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій.

Удзельнікі перадачы — гісторыкі В. Скалабан і Т. Каротская.

16 снежня. 23.30

**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ**

Інфармацыйна - музычная праграма.

17 снежня. 18.05

**ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ**

Дзелавая гульня-семінар па праблемах развіцця беларускага кінематографа.

17 снежня. 19.15

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Г. Пашкова чытае артыст А. Шароў.

17 снежня. 19.20; 23.15

**СТУДЫЯ «РЭЙ»**

Канцэрт беларускай эстраднай музыкі і песні.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

А. КАБАКОВІЧ. Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі. Гістарычна - тэарэтычны нарыс. Мн., «Навука і тэхніка», 1989. — 1 р. 30 к.

А. КАЎРУС. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—70 к.

Г. КІРЫЛАЎ. Пах жыта. Раман. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 70 к.

Ю. КРАШЭЎСКІ. Хата за вёскай. Аповесць. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—1 р. 70 к.

Н. МАЖЭЙКА, А. СУПРУН. Частотны слоўнік беларускай мовы. Гутарковая мова. Мн., «Універсітэцкае», 1989.—45 к.

І. НАВУМЕНКА. Водгулле далёкіх вёснаў. Апавяданні, аповесці. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 90 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 07827

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.